# Голас Радзімы

№ 46 (2084)
17 лістапада 1988 г.

ГАЗЕТА БЕЛАРУСКАГА ТАВАРЫСТВА ПА КУЛЬТУРНЫХ СУВЯЗЯХ З СУАЙЧЫННІКАМІ ЗА РУБЯЖОМ
(БЕЛАРУСКАЕ ТАВАРЫСТВА «РАДЗІМА»)

Выдаецца з 1955 г.
Цана 4 кап.





I. Ах, мода, мода! Якімі толькі эпітэтамі ні ўзнагароджваюць цябе: і капрызная, і зменлівая, і легкадумная... Тым не менш усе падуладныя ёй. Асабліва чулая да павеваў моды моладзь. Тысячы юнакоў і дзяўчат беларускай сталіцы прынялі ўдзел у фестывалі «Маладзёжная мода-89», што праходзіў сёлета ў канцы кастрычніка ў Мінску. (Працяг фотарэпартажу глядзіце на 8-й стар.).

71-Я ГАДАВІНА ВЯЛІКАЙ КАСТРЫЧНІЦКАЙ САЦЫЯЛІСТЫЧНАЙ РЭВАЛЮЦЫІ



**У Беларусі, як і ўсюды па Савецкай краіне, прайшло святкаванне 71-й гадавіны Вялікай Кастрычніцкай сацыялістычнай рэвалюцыі. Сёмага кастрычніка ў гарадах і вёсках рэспублікі адбыліся святочныя дэманстрацыі і народныя гулянні.**

**Мінчане і госці сталіцы сабраліся на галоўнай плошч[illegible]рада — плошчы Леніна. Тут адбыўся ўрачысты парад войск Мінскага гарнізона, а пасля прайшлі па-святочнаму ўбраныя калоны дэманстрантаў. Адзін з момантаў шэсця вы бачыце на фотаздымку.**

# ПЕРАГЛЯДУ НЕ ПАДЛЯГАЕ

Напярэдадні 71-й гадавіны Вялікай Кастрычніцкай сацыялістычнай рэвалюцыі, 5 лістапада, у Крамлёўскім Палацы з'ездаў адбылося ўрачыстае пасяджэнне. З дакладам «Разгарнуць стваральныя сілы сацыялізму» на ім выступіў член Палітбюро ЦК КПСС, сакратар ЦК КПСС Мікалай Слюнькоў. Даклад быў напоўнены не толькі думкамі аб гістарычных заваёвах нашай рэвалюцыі, аб дасягненнях краіны, але быў дадзены і крытычны аналіз таго, што зроблена, што яшчэ трэба будзе зрабіць для ажыццяўлення ідэалаў, якія ў 1917 годзе ўзнялі працоўную Расію на барацьбу за сацыялізм.

Кастрычнік увайшоў у гісторыю як узлёт грамадскай творчасці працоўных мас. Іх рэвалюцыйныя заваёвы, дасягненні ў сацыялістычным будаўніцтве пацвердзілі сілу марксісцка-ленінскага вучэння, паказалі яго незаменнае значэнне ў дзейнасці партыі. Рэвалюцыя, сацыялізм, партыя трывала і назаўсёды зліты ў лёсах нашага народа.

На сацыялістычнай аснове развіваецца ўсё, што было створана намі і чым па праву ганарацца савецкія людзі. Сацыялізм і яго каштоўнасці сталі неад'емнай і ўплывовай састаўной часткай сусветнай цывілізацыі XX стагоддзя.

Аб велізарнай стваральнай сіле сацыялізму, яго жыццёвасці сведчыць перабудова, якая толькі пачалася ў нашай краіне, але ўжо ўдыхнула ў сацыялізм новую энергію.

Перабудова — гэта пераход да якасна новага стану грамадства. З ёю заканамерна звязваюцца разлікі на тое, што сацыялізму стане больш, узрасце магутнасць нашай Радзімы, багацейшым у матэрыяльных і больш разнастайным у духоўных адносінах будзе жыццё савецкага народа.

Сёй-той на Захадзе спадзяецца, што радыкальныя пераўтварэнні выйдуць за рамкі сацыялізму. Дарэмна. Сацыялістычны выбар нашага народа канчатковы і беспаваротны. Ён зроблены Кастрычнікам і перагляду не падлягае!

Мы шукаем вырашэнне ўсіх праблем на шляхах сацыялізму. Партыя цвёрда стаіць на тым, што наша эканоміка і дэмакратыя павінны мець сацыялістычны характар. Ачышчальная работа перабудовы да таго і накіравана, каб разняволіць рухаючыя сілы грамадства, яго сацыялістычны патэнцыял, ліквілаваць усе перашкоды выражэння народнай волі, інтарэсаў асобы.

Гаворачы аб складанасці працэсаў, якія сёння адбываюцца ў нашым грамадстве, М. Слюнькоў адзначыў, што дэмакратыя немагчыма без абмеркаванняў, сутыкненняў поглядаў. Але яны плённыя толькі пры ўмове захавання законнасці і дэмакратычных норм: узаемапавагі, жадання зразумець усе довады і аргументы, імкнення выявіць баланс інтарэсаў. Толькі так, на аснове многіх думак і прапаноў можа быць знойдзена і прыня[illegible] [illegible]равільнае рашэнне.

Да [illegible] выдатных заваёў Кастрычніка, сацыялізму адносіцца дружба раўнапраўных народаў Краіны Саветаў. Гэта — святая справа, якую мы будзем берагчы і прымнажаць. Нацыянальная палітыка з'яўляецца неад'емнай часткай перабудовы. Яна закранае адну з найтанчэйшых сфер грамадскага жыцця нашай краіны.

Кіруючыся ленінскімі прынцыпамі, партыя зыходзіць з таго, што міжнацыянальныя адносіны не могуць быць застылымі, яны знаходзяцца ў пастаянным руху. Сёння мы бачым, да якіх вынікаў прыводзіць грэбаванне праблемамі, што ўзнікаюць у ходзе іх развіцця.

КПСС усведамляе неабходнасць новых, глыбока прадуманых рашэнняў, якія дазволілі б пераадолець цяжкасці і супярэчнасці, што ўзнікаюць у сферы нацыянальных адносін. Ясна, што пры падыходзе да гэтых праблем непарушным застаецца інтэрнацыяналізм як адна з асноў сацыялістычнага грамадскага ладу. Шлях да ўмацавання брацкай згуртаванасці нацый і народнасцей ляжыць праз свабоднае развіццё кожнай з іх. І ў той жа час любы народ даб'ецца значна большага ў рэалізацыі сваіх інтарэсаў, калі больш актыўна будзе ўдзельнічаць у агульнай рабоце па абнаўленню сацыялізму.

За гады пасля Кастрычніка нам удалося стварыць магутную вытворчую базу, прывесці ў дзеянне гіганцкія матэрыяльныя і людскія рэсурсы, пераўтварыць аблічча краіны да самых аддаленых ускраін. Цяпер, апіраючыся на тое, што ўжо дасягнута, трэба будзе па-сапраўднаму раскрыць перавагі сацыялізму ў рашаючай сферы чалавечай дзейнасці — эканамічнай.

УРАЧЫСТЫ СХОД

## У ГОНАР ЗНАМЯНАЛЬНАЙ ДАТЫ

**У Мінску адбыўся ўрачысты сход прадстаўнікоў грамадскасці, прысвечаны 70-й гадавіне аднаўлення незалежнасці Польшчы. Старшыня праўлення Беларускага аддзялення Таварыства савецка-польскай дружбы, народны паэт Беларусі, Герой Сацыялістычнай Працы Я. Скурко (Максім Танк), які выступіў з дакладам, падкрэсліў, што працоўныя рэспублікі будуць рабіць усё, каб і далей мацнела і працвітала савецка-польскае брацтва ў імя перамогі міру і сацыялізму.**

**Консул генеральнага консульства ПНР у Мінску З. Худзік у сваім выступленні падкрэсліў вялікае значэнне, якое маюць для польскага народа дружба і супрацоўніцтва з савецкім народам.**

**У рабоце сходу прынялі ўдзел сакратар Прэзідыума Вярхоўнага Савета БССР Л. Сыраегіна, кіраўнікі міністэрстваў і ведамстваў, партыйныя і савецкія работнікі, перадавікі вытворчасці, актывісты Беларускага аддзялення Таварыства савецка-польскай дружбы. Прысутнічаў таксама генеральны консул ПНР у Мінску М. Абядзіньскі.**

САЦЫЯЛЬНАЕ РАЗВІЦЦЁ

## БЯСПЛАТНЫ ДЗІЦЯЧЫ САД

**Прыбаўкай у бюджэце маладых сямей з'явілася рашэнне праўлення калгаса «Чырвоная змена» Любанскага раёна ўзяць на сябе аплату ўтрымання малых у дзіцячых садах гаспадаркі. Такой ільготай тут карыстаюцца ўжо больш за сто сямей. І гэта натуральна, бо сярэдні ўзрост калгаснікаў — 30 гадоў.**

**Клопатам акружаны ў «Чырвонай змене» і заслужаныя ветэраны. Ім бясплатна ўзорваюць агароды, прывозяць і пілуюць дровы, аказваюць іншыя паслугі.**

**Сацыяльнымі пытаннямі ў калгасе займаюцца гэтак жа ўважліва, як і вытворчымі. Таму тут няма праблем з уладкаваннем дзяцей у сады, у кожнай брыгадзе ёсць свая сталовая, клуб. У вёсках гаспадаркі толькі за апошнія гады пабудаваны дзесяткі добраўпарадкаваных дамоў. Паміж клопатам пра чалавека і працоўнымі поспехамі сувязь самая непасрэдная. Славуты на ўсю рэспубліку калгас пастаўляе цяпер дзяржаве столькі сельскагаспадарчай прадукцыі, колькі 20 гадоў таму назад здавалі яе ўсе гаспадаркі раёна.**

СУЧАСНАЕ АБСТАЛЯВАННЕ

## «БАЕР» СУПРАЦОЎНІЧАЕ З КАЛГАСАМ

**Заходнегерманская фірма «Баер» расшырыла супрацоўніцтва з калгасам імя Дзяржынскага Бабруйскага раёна — у гэтай гаспадарцы яна толькі што ўвяла ў строй магутную ўстаноўку для апрацоўкі насення рапсу.**

**Гэты агратэхнічны комплекс фірма перадала бясплатна для правядзення навукова-вытворчай праверкі інтэнсіўных тэхналогій вырошчвання сельскагаспадарчых культур. Спецыялісты з ФРГ памаглі змантіраваць абсталяванне і выпрабаваць яго ў рабоце.**

ЭСТЭТЫЧНАЕ ВЫХАВАННЕ

## У ШКОЛУ — ПАСЛЯ ШКОЛЫ

**Першы званок паклікаў хлопчыкаў і дзяўчынак на заняткі ў мастацкую школу ў Гродне. Сюды прынята вялікая група адабраных па конкурсу вучняў малодшых класаў з многіх агульнаадукацыйных школ горада. Пад кіраўніцтвам вопытных выкладчыкаў на працягу чатырох гадоў дзеці будуць атрымліваць веды па жывапісу, скульптуры, гісторыі мастацтваў і іншых спецыяльных дысцыплінах. Потым самыя таленавітыя атрымаюць магчымасць праявіць творчыя здольнасці ў мастацкіх вучылішчах і іншых вучэбных установах такога профілю.**

СЕЛЕКЦЫЯ

## ВОСЕНЬСКІЯ КЛОПАТЫ

**Уласнае насенне кукурузы, якая ніколі раней не выспявала нават у Гомельскай вобласці, больш цёплай, чым астатнія ў рэспубліцы, атрымалі мясцовыя паляводы. Гэта канкрэтныя вынікі супрацоўніцтва спецыялістаў Палескага саўгаса-тэхнікума і ўкраінскіх вучоных. Засеяўшы тутэйшыя палі, якія асабліваў прадукцыйнасцю не вызначаюцца, кукурузай «дняпроўская-141 ТВ», партнёры не толькі пацвердзілі высокія якасці новага сорту і атрымалі 80 тон паўнаважкага насення, але і ў значнай меры кампенсавалі кукурузай недабор фуражнага зерня ў гаспадарцы.**

АХОВА ПРЫРОДЫ

## НОВЫ ЗАКАЗНІК

**Як і раней, застануцца стаяць векавыя дубровы, бярозавыя гаі, не знікнуць заліўныя лугі і балоты ў пойме Прыпяці на тэрыторыі Столінскага і Лунінецкага раёнаў. Ад не зусім прадуманай меліярацыі іх абаранілі самі мясцовыя жыхары. Не захацелі яны адмовіцца ад прыгажосці роднага краю дзеля эканамічных выгад і на сельскіх сходах прынялі рашэнне: хадайнічаць аб стварэнні на сваіх землях заказніка. Брэсцкі аблвыканком задаволіў гэтую просьбу.**

**А берагчы тут сапраўды ёсць што: у празрыстых рачулках плешчуцца бабры, у лясах жывуць барсукі, ласі, нямала іншых каштоўных жывёлін.**

**Плошча новага заказніка з паэтычнай назвай «Ястрабель» — каля шасці тысяч гектараў. Адмовіўшыся ад гаспадарчага выкарыстання гэтых зямель, мясцовыя калгасы і саўгасы не застануцца ў накладзе: прырост прадукцыі, які абяцалі меліяратары, хлебаробы атрымаюць за кошт павышэння культуры земляробства на старых палях.**

НАВАГРУДСКІ ПЛЕНЭР

## ПАМЯЦІ ПАЭТА

**У старадаўнім парку Навагрудка, каля Замкавай гары, нядаўна з'явіліся скульптуры. І не дзве, не тры — 24.**

**Іх падарылі гораду ўдзельнікі пленэра рэзчыкаў па дрэву, прысвечанага 190-годдзю з дня нараджэння выдатнага польскага паэта Адама Міцкевіча, жыццё якога было звязана з Навагрудкам.**

**Тэмы скульптарам падказалі творы паэта. Напрыклад, І. Супрунчык з Брэстчыны працаваў пад уражаннем паэм «Пан Тадэвуш» і «Дзяды». На кампазіцыю «Дудар» гродзенца А. Ліпеня натхніў аднайменны верш.**

АЎКЦЫЁН

## ЧЫМ ГАНДЛЮЕ НАВУКА

**Выгадна зрасходаваць зароблены ва ўмовах гасразліку прыбытак прапанаваў прадпрыемствам Мінскі Дом тэхнікі. Тут прайшоў аўкцыён найноўшых распрацовак, якія прадставіла навуковатэхнічнае таварыства прамысловасці прыборабудавання імя Вавілава. З многіх гарадоў краіны з'ехаліся сюды пакупнікі, якім былі разасланы запрашэнні. І не расчараваліся, азнаёміўшыся з «вітрынай». Спецыялісты прапанавалі падрабязныя апісанні створаных імі канструкцый і самі прыборы.**

**На аўкцыёне, хаця і быў самы сапраўдны аўкцыённы малаток, галоўнае правіла гандлю ўсё ж парушылі: навінкі прадавалі ўсім жадаючым. Так, больш дзесяці арганізацый зацікавіліся партатыўным цвёрдамерам. Гэты прыбор, які можна пакласці ў партфель, з вялікай дакладнасцю «спрабуе на зуб» любое рэчыва, не разбураючы яго. Такой жа ўласцівасцю валодае і «Максі», што аналізуе якасць сталёвых вырабаў, нават не дакранаючыся да іх.**

## ЦІ МОЦНАЯ БЕЛАРУСКАЯ СЯМ'Я

# НАДЗЕЙНЫ ПРЫСТАНАК

Сям'я беларуская... Якая яна сёння, пасля ўсіх тых гістарычных вятроў, што не заўсёды ёй спрыялі?

Скажам адразу: яе афіцыйны статус і маральны прэстыж высокія. Гэта поўнасцю адпавядае нацыянальна-гістарычнай традыцыі — на Белай Русі заўсёды паважліва ставіліся да Бацькаўшчыны, праслаўлялі каханне, шчаслівы шлюб, моцную сям'ю, дружбу бацькоў і дзяцей, клопат пра малых і састарэлых. Якія б цяжкасці ні выпадалі на долю беларуса-працаўніка, воіна, вандроўніка, ён заўсёды ў думках быў з роднымі і блізкімі, з сям'ёю, дзеля якой часцей за ўсё і завіхаўся, і пакутаваў. І таму ён і ў мінулым, і сёння не ўспрымае сцвярджэнне пра «натуральнае адміранне сям'і па меры гістарычных дасягненняў».

Тут ува мне загаварыла ўжо падсвядомасць даследчыка. Калі ў пачатку шасцідзесятых гадоў я, тады яшчэ малады чалавек, пачаў вывучаць маральныя асновы савецкай сям'і, мне даводзілася абараняцца ад тых «прыхільнікаў новага», якія лічылі сям'ю рудыментам далёкага мінулага. Сярод іх былі і славутыя вучоныя — філосафы, гісторыкі, эканамісты, сацыёлагі. Яны сцвярджалі: праз 20-30 гадоў у нашай краіне будзе моцная камуністычная гаспадарка, самы лепшы ў свеце сервіс; дзяржава возьме на сябе клопат аб дзецях з дня іх нараджэння і да паўналецця, таксама і аб састарэлых; маладыя сем'і і сем'і бацькоў будуць жыць паасобна ў дамах-камунах; шлюб будзе існаваць, пакуль застаецца палымянае каханне — не болей... І калі аслабяцца эканамічныя сувязі, на чым сям'я пераважна і трымаецца, яна сама па сабе адамрэ... Але мы, вучоныя-даследчыкі нашай рэспублікі, у адрозненне ад маскоўскіх і прыбалтыйскіх калег, з гэтым ніколі не пагаджаліся. На чым грунтаваліся нашы меркаванні? На ўважлівых назіраннях за беларускім бытам, народнай маральнасцю. І тады, і цяпер гэта было моцнай апорай у навуковых дыскусіях.

Але ж мы жывём не ў сацыяльным вакууме. Тое, што характэрна для сям'і еўрапейскага тыпу, за малым выключэннем, уласціва і нашай, беларускай.

Напрыклад, колькасны склад. Сем'і майго дзеда і бацькі мелі па 8 дзяцей: тады сем'і складаліся з дзесяткаў членаў, часам — з двух-трох пакаленняў. Пасля другой сусветнай вайны нас засталося шасцёра сясцёр і братоў. Калі ўтварыліся нашы ўласныя сем'і, дзве з іх мелі па трое дзяцей, чатыры — па двое. Такая ж тэндэнцыя захавалася і ў нашых дарослых дзяцей. А вось у нашых суайчыннікаў часам і таго няма: адно дзіцё — і досыць. Вядома, ёсць і сем'і (як у адзінай дачкі акадэміка АН БССР Ігнаценкі), дзе сем і больш дзяцей, але ж яны ўсё-такі — прыемнае выключэнне з правіла. Зараз у Беларусі сярэдняя сям'я — 3,3 чалавека (у Туркменіі і Узбекістане — 5,5, Таджыкістане — 5,7, Азербайджане — 5,1, Эстоніі — 3,1). У васьмідзесятыя гады назіраецца стабілізацыя ўзроўню нараджальнасці. Гарадское насельніцтва ў Беларусі складае зараз 64 працэнты (у 1940 годзе — 21 працэнт).

Сямейна-шлюбныя адносіны — тонкая, далікатная, інтымная сфера. Каханне пачынаецца з захаплення, шлюб — з кахання. Апошняе ў якасці матыву ўступлення ў шлюб, згодна з нашымі сацыялагічнымі даследаваннямі, называецца ў 65 выпадках з 100, потым ідуць сімпатыі, сяброўства, імкненне пазбавіцца адзіноцтва, чаканне дзіцяці. Так, да цнатлівасці цяпер у гарадах ставяцца часцей за ўсё абыякава, не такія ўжо рэдкія шлюбы, калі нявеста ідзе пад вянец цяжарнай. Калі мы звярталіся да тых жа мужа і жонкі праз пяць-шэсць гадоў, то каханне як матыў шлюбнага жыцця называлі ўжо працэнтаў 35 рэспандэнтаў, затое на першае месца ставіўся клопат аб дзецях і звычка. Так што відавочна зніжэнне эмацыянальнага напалу. Вядома, адмоўна адбіваюцца часам і жыллёвыя праблемы маладых сем'яў, і матэрыяльныя турботы. Таму колькасць скасавання шлюбаў у васьмідзесятых гадах павялічылася ў параўнанні з шасцідзесятымі ў тры разы, але на працягу апошняга дзесяцігоддзя лічба скасаваных шлюбаў штогод адна і тая ж: 1,4 працэнта да агульнай колькасці шлюбных пар у рэспубліцы. Пры існуючай сітуацыі са смяротнасцю людзей і скасаваннямі шлюбаў да «сярэбранага» вяселля змогуць дажыць 52 працэнты, да «залатога» — 17 працэнтаў сямейных пар.

У маральным сэнсе ў беларускіх сем'ях, хай то будзе гарадская ці вясковая, зараз маці-адзіночка не адчувае сябе ўшчэмленай. На 100 немаўлятак прыходзіцца 6-7 тых, якія нарадзіліся ў такіх маці (у Эстоніі. для параўнання, 18). І калі яны не могуць выхоўваць дзяцей самастойна, іх можна перадаць на ўтрыманне дзяржавы. Апошняя ў матэрыяльным плане зробіць усё, што трэба. Але родную маці замяніць не зможа ніхто. На вялікі жаль, у сучасны момант Дамы немаўлят і школы-інтэрнаты для дзяцей-сірот, часцей за ўсё пры жывых бацьках, не пустуюць. Значыць, не ўсё ў нас добра з маральна-этычным выхаваннем дарослых.

Савецкая ўлада праяўляе значны клопат аб сям'і. Шматдзетныя бацькі, у якіх трое і больш непаўналетніх дзяцей, а таксама блізняткі, маюць першачарговае права на паляпшэнне жыллёвых умоў. За кошт прадпрыемства маладажонам выдаецца беспрацэнтная пазыка ў памеры 1 500 рублёў. Калі нараджаецца другое дзіця, у кошт яе пагашэння залічваецца 200 рублёў, трэцяе — 300. Такія сем'і ў першую чаргу атрымліваюць дачныя ўчасткі, санаторныя пуцёўкі, іншыя льготы. Дзяржава выдае бацькам аднаразовую дапамогу ў суме 50 рублёў пры нараджэнні першынца і па 100 рублёў пры нараджэнні другога і трэцяга дзіцяці. Калі двайняты, то маці і пры першых родах выдаецца па 100 рублёў на дзіця. Маці-працаўніцам, што маюць двое і больш дзяцей ва ўзросце да 12 гадоў, прадастаўлена права на дадатковы водпуск па догляду за дзецьмі, а штогадовы водпуск прадастаўляюць летам ці ў ін… ручны для жанчыны час. Ма… арміліца мае льготны рэжым працы, можа атрымаць надомныя віды работ. Па догляду за хворымі дзецьмі выдаюцца аплачваемыя бюлетэні. Цэлы шэраг ільгот маюць …маці-адзіночкі. Увогуле, …ржаўная дапамога сям… — адчувальная як у Беларусі, так і ў любым кутку нашай Савецкай краіны.

Але не толькі на чыёйсьці дапамозе будуецца асабістае шчасце чалавека. Перш за ўсё — за кошт уласнай працы. У БССР калгасы пераважна моцныя. Але ж цяпер селянін мае магчымасць зарабіць і на сямейным падрадзе, і як арандатар. Пашырыліся каналы заробткаў і для гараджаніна. Шырока практыкуюцца садаводчыя таварыствы. Так што сталы на нашых вяселлях, імянінах даўно не пустуюць. Вяселлі ж на Беларусі сумнымі не бываюць, бо нараджаецца новая сям'я вольных і працавітых людзей, шчасце якіх — у іх руках.



**У калгасе «Сця… рамогі» на Пастаўшчыне працуе дружная сям'я Гайдукоў. Яе галава — Пётр Васільевіч — вопытны механізатар. Па сцяжыне бацькі пайшоў і сын Васіль. А вось дачка Алена вырашыла працягваць адукацыю, хаця ад вясковых клопатаў таксама адыходзіць не збіраецца: вучыцца ў Полацкім сельгастэхнікуме. Жонка Пятра Гайдука Галіна Фёдараўна і нявестка Валянціна спалуч…ь свае нялёгкія, як і ва ўсіх вясковых жанчын, ха… абавязкі з працай у калгасе. Шмат спраў, шмат клопатаў... Але людзі на гэта не скардзяцца, бо без працы сваё жыццё не ўяўляюць. Тым больш, што ўсе цяжкасці робяцца лягчэйшымі, калі ў доме пануюць любоў, павага, узаемадапамога.**

**Фота М. АМЕЛЬЧАНКІ.**

**Сяргей ЛАПЦЁНАК,**
**доктар філасофскіх навук, прафесар, загадчык Праблемнай навукова-даследчай лабараторыі сацыялагічных даследаванняў БДУ імя У. І. Леніна.**

## ТРАДЫЦЫІ, ЗВЫЧАІ, АБРАДЫ

# ЗАЛАТЫЯ ПАРЫ

На Беларусі спакон веку шанавалі сем'і, што жывуць доўгія гады ў любві і згодзе. Яны былі прыкладам для маладых, увасаблялі гонар і вартасць усёй вёскі ці гарадка. І сёння вельмі прыемна адзначыць, што добрыя традыцыі жывуць.

Здавалася, усе жыхары Карцэвіцкага сельскага Савета прыйшлі ў той дзень павіншаваць юбіляраў — мужа і жонку Уладзіміра і Надзею Жукоўскіх, Пятра і Марыю Высоцкіх, Аляксандра і Ганну Саньчакавых, Паўла і Марыю Чыжыкаў. Усе гэтыя чатыры ўмудроныя жыццёвым вопытам пары з'ехаліся ў сельскі Дом культуры на сумеснае залатое вяселле.

Лічба 50, лаўровая галінка і сімвал вечнага кахання — два заручальныя пярсцёнкі ўпрыгожылі ўваход у сельскі Дом культуры і яго святочна ўбраную прасторную залу. Дзяўчаты ў нацыянальных беларускіх касцюмах бяруць пад рукі юбіляраў, запрашаюць заняць ганаровыя месцы за столікамі, на якіх пастаўлены самавары, сокі, напіткі, а вазы напоўнены цукеркамі, пячэннем і пірагамі.

Распарадчыкі ўрачыстасці — сакратар выканкома сельскага Савета Зінаіда Мяленька і дырэктар сельскага Дома культуры Іна Верамеевіч пазнаёмілі гасцей вяселля з «радаслоўнай» кожнай залатой пары. На вышытых прыгожымі ўзорамі ручніках арганізатары вясельнага рытуалу з нізкім паклонам паднеслі ім каравай духмянага хлеба. Старшыня выканкома мясцовага Савета народных дэпутатаў А. Сідаровіч цёпла павіншаваў «маладажонаў» з паўвекавой сумеснай жыццёвай дарогай, уручыў ім пасведчанні аб шлюбе і памятныя медалі, падарункі, якія нагадваюць аб гэтай падзеі.

Плывуць урачыстыя мелодыі. У гонар юбіляраў удзельнікі мастацкай самадзейнасці выконваюць народныя абрадавыя беларускія песні. Усе вясельныя пары, як ніколі, здаецца, прыгожыя, прыкметна хвалююцца і выглядаюць маладзейшымі.

І яшчэ адзін сюрпрыз. Яго паднесла залатым «маладым» «паркалёвая пара» — Людміла і Альфонс Зяньковічы. Мужам і жонкай сталі яны роўна год назад. Расчыніліся дзверы, і пад музыку «паркалёвая пара» ўнесла ў залу вялікі і прыгожы торт. А на ім пяцьдзесят запаленых свечак як сімвал паўвекавога сумеснага жыцця юбіляраў.

Хто ж гэтыя сціплыя людзі? Вось старонкі з біяграфіі толькі адной сям'і — Жукоўскіх. Бацькі пяці дзяцей. Яшчэ ў іх дзевяць унукаў і тры праўнукі. Галава сям'і прайшоў цяжкімі дарогамі вайны ад яе першых і да апошніх дзён. Надзея Антонаўна ўзнагароджана медалём мацярынства.

Вось такое вялікае свята сям'і прайшло ў нясвіжскім калгасе «Радзіма».

**М. СІСКЕВІЧ.**

## ЭКСКУРСІЯ Ў ДАМАШНІ МУЗЕЙ

# НЕ ХЛЕБАМ АДЗІНЫМ...

Факт з разраду нячастых: гараджанін пакідае камфартабельную кватэру і едзе жыць у вёску, ды не якую-небудзь прысталічную. Менавіта такі выбар зрабіў былы артыст Фёдар Шпіленя. Каля сарака гадоў іграў ён на кантрабасе ў сімфанічных аркестрах оперных тэатраў Львова, Чэлябінска, Нальчыка, у Белдзяржфілармоніі. У гады Вялікай Айчыннай вайны скалясіў нямала дарог з франтавымі агітбрыгадамі, узнагароджаны медалём «За баявыя заслугі». І ўсюды побач з Фёдарам Іванавічам была Лідзія Пятроўна — жонка, адмысловая вышывальшчыца.

Шпілені пабудаваліся на адной з вуліц вёскі Языль, што на Старадарожчыне. Толькі сцены ўзводзілі нанятыя работнікі. Усё астатняе гаспадар рабіў сваімі рукамі. А яны ў Фёдара Іванавіча здатныя не толькі да смычка і баяна: ён сябруе са стамескай і гэблікам, з сякерай і пілой. Суседзі ў яго здольнасцях пераконваліся не раз, асабліва калі ўбачылі брамку з выразанай лірай, нотнымі знакамі, адмысловы барэльеф на сцяне, а вакол калодзежа... змяю, вылепленую гаспадаром з алебастра. На столі, сценах дома — арыгінальныя арнаменты, рэпрадукцыі карцін вядомых мастакоў.

Кожнаму, хто заходзіць у гэта незвычайнае жыллё, Фёдар Шпіленя пакажа зроблены ім кантрабас — не горшы за той, з якім ён не развітваўся ў тэатрах.

...Нядаўна я атрымаў ад Фёдара Іванавіча запрашэнне — наведаць падрыхтаваную ім разам з жонкай выстаўку мастацкай вышыўкі і фотаэкспазіцыю з гісторыі роднай вёскі. Па вузкай, крутой, як на караблі, лесвіцы мы падняліся на другі паверх утульнага катэджа. Прасторны пакой нагадваў сапраўдны музей. На ўсю сцяну — фотавыстаўка, прысвечаная мінуламу і сучаснаму Языля. Сотні партрэтаў вяскоўцаў, фотакопіі розных дакументаў, газетных публікацый дваццатых і трыццатых гадоў.

І ўжо зусім нельга адвесці вачэй ад шматлікіх мастацкіх вышывак Лідзіі Шпілені, зробленых ёю па матывах вядомых палотнаў Рэпіна, Урубеля, Васняцова, Левітана. Па-майстэрску вышыты касцюм беларускай сялянкі дарэвалюцыйных часоў (над ім Лідзія Пятроўна працавала больш года!) мог бы ўпрыгожыць сталічны музей. А запіс на магнітную плёнку старадаўніх народных песень у выкананні старэйшых жыхарак Языля, зроблены Фёдарам Іванавічам,— яшчэ адзін прыклад імкнення гэтых людзей сабраць да драбніц усё каштоўнае, што мы называем духоўным набыткам.

Пасля песень слухалі вершы Лідзіі Пятроўны. Яны, можа, не вельмі дасканалыя па форме, але ў іх ёсць тое, чым жыве вёска, што яе хвалюе.

**М. ТЫЧЫНА.**

# ВІНШУЮЦЬ ЗЕМЛЯКІ

**Дарагія таварышы!**

**Праўленне, члены і сябры РОКа ў Сіднеі віншуюць вас, а ў вашай асобе ўвесь савецкі народ з 71-й гадавінай Вялікага Кастрычніка.**

**Мы, рускія людзі, якія пражываюць у Аўстраліі, з вялікай увагай сочым за ўсім, што адбываецца на Радзіме, разам з вамі перажываем няўдачы, радуемся дасягненням.**

**Жадаем савецкаму народу поспехаў у перабудове народнай гаспадаркі, здароўя, асабістага шчасця і блакітнага неба над нашай планетай.**

**Няхай жыве 71-я гадавіна Вялікага Кастрычніка!**

**За мір ва ўсім свеце!**

**З павагай**

**Старшыня РОКа Міхаіл БАЙДЗІН.**

Аўстралія.

**Паважаныя супрацоўнікі Таварыства «Радзіма» і рэдакцыі газеты «Голас Радзімы»!**

**Праўленне і члены ФРК горада Таронта віншуюць вас з 71-й гадавінай Вялікай Кастрычніцкай сацыялістычнай рэвалюцыі. Жадаем шчасця, поспехаў. Добрага вам здароўя, сябры!**

**Сакратар Таронцкага аддзела Федэрацыі рускіх канадцаў**

**Кацярына ЗВАНАРОВА.**

Канада.

**71 год Вялікай Кастрычніцкай сацыялістычнай рэвалюцыі!**

**Разважаючы аб гэтым знамянальным для савецкага народа свяце, міжволі ловіш сябе на думцы: як у корані змянілася наша дзяржава! Іншымі сталі і людзі, патрыёты - інтэрнацыяналісты, асабліва пасля XIX партыйнай канферэнцыі. Публічнасць, перабудова, паглыбленне эканамічнай рэформы адкрываюць кожнаму чалавеку прастору для дзеянняў, для практычнай работы па рэалізацыі планаў партыі па паляпшэнню жыцця савецкага народа.**

**Перабудова — працяг рэвалюцыі!**

**Віншую рэдакцыю «Голасу Радзімы» са святам Вялікага Кастрычніка! Жадаю вам усяго добрага, поспехаў у перабудове на нашай Радзіме. Няхай зніКнуць бюракратызм, усе хваробы застою, а працэс рэвалюцыйных пераўтварэнняў набірае сілу!**

**Юрый РАСАДЗІНСКІ.**

Аўстралія.

**Паважаныя супрацоўнікі Таварыства «Радзіма»! Прыміце ад нашай сям'і віншаванне з 71-й гадавінай Вялікай Кастрычніцкай сацыялістычнай рэвалюцыі, галоўнай падзеяй XX стагоддзя, якая карэнным чынам змяніла ход развіцця ўсяго чалавецтва. І чым далей ад нас падзеі Кастрычніка, тым глыбей усведамляем веліч подзвігу тых, хто з беззапаветнай мужнасцю ішоў на штурм старога свету.**

**Жадаем вам і ўсяму савецкаму народу быць вернымі бессмяротным ідэям Кастрычніка!**

**З павагай**

**Сям'я АЛЯРАШЫ.**

Сірыя.

*ЯК ЖЫВЕЦЦА МІНСКАЙ АМЕРЫКАНЦЫ*

# АДКАЗЫ НА СВАЕ ПЫТАННІ

**У канцы чэрвеня гэтага года на старонках нашай газеты мы пазнаёмілі чытачоў з А. Зязюлінай, якая прыехала на пастаяннае жыхарства ў Мінск са Злучаных Штатаў Амерыкі. Як жывецца ёй у сталіцы Беларусі? Як ацэньвае нашу рэчаіснасць чалавек з іншага свету? На гэтыя і многія іншыя пытанні адказвае Аляксандра Зязюліна ў артыкуле, які яна падрыхтавала па просьбе рэдакцыі. Спадзяёмся, што ён не будзе апошнім, бо рэдакцыя заручылася згодай аўтара і ў далейшым знаёміць чытачоў з уражаннямі аб розных аспектах жыцця ў нашай краіне.**

Летась я пераехала з Нью-Йорка ў Мінск і чатыры месяцы таму назад стала грамадзянкай СССР. Мне здавалася, што я была добра падрыхтавана да гэтага пераезду: муж тут, я рускага паходжання, размаўляю па-руску, вучылася ў Маскве і практычна аб'ехала ўвесь Саюз.

Звычайна людзі эмігрыруюць у іншыя краіны, таму што яны хочуць вырвацца з нейкага асяроддзя ці з нейкіх умоў, лічачы, што набудуць другі шанц. У аснове такога пераезду ёсць рызыка. Гэта магчымасць правалу, расчараванні або жаль. Да мяне гэта не адносіцца, таму што, нягледзячы на вялікую адлегласць паміж СССР і ЗША, мой пераезд быў натуральным. Я аб'ядноўвалася з мужам і адначасова вярталася ў тое адзінае месца, якое мая сям'я называла Радзімай. Аднак, ведаючы і эканоміку, і многія моманты савецкай гісторыі, я не магла пахваліцца поўнай заспакоенасцю. Ці змагу тут прыжыцца, змагу бачыць маіх родных, хто астаўся ў Амерыцы? А ўзровень жыцця — ці прыйдзецца мне стаяць у жахліва доўгіх чэргах? Што буду есці? Як праводзіць вольны час? Ці змагу знайсці работу, хадзіць у царкву? Ці не буду зведваць недахоп інфармацыі? Ці буду адчуваць сябе вольнай... Якія апаскі аказаліся беспадстаўнымі, якой жа аказалася рэчаіснасць?

Я не адчуваю ні непрыязнасці, ні дыскрымінацыі з-за таго, што я «адтуль», з чым часта сутыкаюцца эмігранты ў іншых краінах. Мая гордасць і пачуцці не пацярпелі. Аднак я пастаянна сутыкаюся тут з двума процілеглымі, раздутымі і наіўнымі ўяўленнямі пра ЗША і амерыканцаў. Некаторыя спачатку задаюць мне пытанне: ці сапраўды там так «жахліва»? Іншыя ўжо маюць свае ўласныя меркаванні пра ЗША. Але часцей за ўсё яны ўяўляюцца ў ружовым колеры. І вось значна цяжэй мець справу з гэтай, другой ацэнкай, чым з першай.

Так, у Амерыцы ёсць беспрацоўе, дыскрымінацыя, высокая злачыннасць, наркаманія, насілле, беднасць, несправядлівасць і мноства іншых праблем. Амаль кожны горад мае бедны, небяспечны, змрочны і безнадзейны раён, і адкрыта існуе казачнае адрозненне паміж багатым і бедным. Гэта элемент амерыканскага ладу жыцця, але гэта не даводзіць сярэдняга амерыканца да якога-небудзь бяздумнага і тужлівага стану. Большасць ведае гэтыя недахопы і стараецца абавязкова іх пазбегнуць ці выкараскацца з-пад іх ціску (а некаторыя і змагаюцца супраць іх). Але гэта не заўсёды лёгка, і не заўсёды справядлівасць перамагае. Так ці інакш, у звычайны, будні дзень сярэдні амерыканец прачынаецца, снедае (ці толькі п'е каву), адпраўляецца на працу, абедае (больш правільна, есць бутэрброд і п'е яшчэ каву), вяртаецца дамоў, вячэрае, займаецца гаспадаркай ці дзецьмі, глядзіць тэлевізар і кладзецца спаць. Знаёма? Адрозненне ў дэталях.

Большасць амерыканцаў не багачы. Яны носяць зручную, практычную і прыгожую адзежу. Гэта вынік таго, што не выгадна выпускаць няякасныя вырабы і таму таго, хто дрэнна працуе, трымаць не будуць. Так, амаль кожная сям'я мае новую ці патрыманую машыну, але там гэта сапраўды сродак руху, а не раскоша. Як правіла, грамадскага транспарту ў многіх месцах ці не існуе, ці ён дарагі, ці небяспечны з-за злачыннасці. Так, ёсць многае, што хочацца купіць, але большасць людзей лічыць кожны патрачаны долар. Дорага каштуе жыллё, транспарт, ацяпленне, медыцына, душаць розныя страхоўкі і падаткі. У жыцці значна больш канкурэнцыі і жорсткасці, чым, па-мойму, тут многія лічаць. Мне здаецца, што амерыканцы працуюць больш, больш прадукцыйна і больш эфектыўна. І гэта ў іх увайшло ў прывычку — гэта не толькі ціск — гэта і людзі, і норма. Узнагарода за поспех высокая, але гэты поспех без гарантыі. Трэба старанна працаваць і быць удачлівым.

Але вернемся да маіх прымхаў, набытых у Амерыцы, і да маёй ацэнкі жыцця ў СССР, больш правільна, ў Мінску. У значнай частцы стэрэатыпы, як цяпер можна гаварыць, рассыпаліся дзякуючы таму, што тут ёсць змены.

Мая сястра, пляменніца і мама (іх адпачынак у нас гэта асобныя прыгоды) ужо прыязджалі сюды. Хутка і я збіраюся наведаць іх. Афармленне дакументаў значна спрошчана.

Мне не даводзіцца стаяць за прадуктамі ў доўгіх чэргах. Аднак некаторыя чэргі знаёмыя — да ўрача, за білетамі на поезд. Усё яшчэ не магу прывыкнуць да чэргаў за спіртным і каўбасой. Крыху адрозніваецца падыход да прыгатавання ежы. Звычайна ў ЗША гаспадыня спачатку вырашае, што прыгатаваць, а затым робіць неабходныя пакупкі. Тут для мяне гэты прынцып дзейнічае ў адваротным парадку. Ідучы ў «Рыгу» (гэта вялікі універсам побач з нашым домам), я не магу разлічваць на тое, што змагу купіць ялавічыну, курыцу ці свініну тады, калі мне хочацца, але нешта адно можна купіць, не затрымліваючыся. Давялося змірыцца з тым, што невялікі выбар свежай рыбы і фруктаў. Нягледзячы на гэта, я харчуюся добра і смачна (без чэргаў). Амерыканцы, якія клапоцяцца пра здароўе, даўно пазбягаюць сасісак, каўбасы і сала — мне незразумела, чаму многія стаяць за гэтымі прадуктамі, калі ёсць у свабодным продажы тварог, нятлустая ялавічына ці курыца, малако, яйкі, сыр, рыс, хлеб і розныя сарты вермішэлі (не ўсе ж прыехалі здалёку ці збіраюцца ў дарогу). Гэта яўна не з-за цэн. Можа быць, таму што тут практычна няма прыгожых, простых кулінарных кніг для «непрафесіяналаў»? Нязвыкла, што адсутнічаюць на ўпакоўках указанні пра колькасць вітамінаў, бялкоў, халестэрыну і солі ў прадукце, пра яго каларыйнасць.

Думаю, што ўжо лепш правесці гадзіну на кухні, чым паўгадзіны ў чарзе! Так, мне не хапае круглагадовых лімонаў, салаты і шпінату. Але хлеб і марожанае ў Мінску смачнейшыя за нью-йоркскія. Гэта ўжо дакладна. У магазінах Нью-Йорка заўсёды ёсць памідоры і клубніцы. Аднак лепш я буду іх есці толькі летам—розніца ў смаку, асабліва клубніц, велізарная. Адзінае, што сапраўды засмучае ў магазінах—гэта вялікая колькасць гнілой гародніны — бульбы і цыбулі. Няхай сабе цана нізкая, але жахліва тое, што палавіну даводзіцца выкідваць. Зрэшты, гэта вам знаёма. Аб гэтым пішуць усе газеты... Пераспелыя фрукты і гародніна ў амерыканскіх магазінах бываюць, але на распродажы па зніжаных цэнах і яшчэ зусім прыгодныя для пірагоў, кампотаў і г. д.

Цяпер пра чэргі і затрымкі ў ЗША. Яны таксама існуюць. Увяіце сабе аўтамабільныя заторы, з якіх можна выбірацца 2—3 гадзіны і больш. Не верыцца, што цяпер мне не трэба сядзець за рулём некалькі гадзін, каб даехаць да лесу, поля ці вёскі. Усяго некалькі мінут — і горад ззаду. У ЗША гарады ўліваюцца адзін у адзін (Бостан — Нью-Йорк — Вашынгтон).

Вядома, СССР адстае ад ЗША па забяспечанасці быту, але гэта адсталасць не такая ўжо вялізная (халадзільнік застаецца халадзільнікам, нават калі ён меншы і яго трэба размарожваць). Гэта адставанне можа быць выгадным для СССР: ёсць магчымасць паглядзець на зробленае на Захадзе, адкінуць тое, што атрымалася дрэнна, мела неапраўданыя затраты ці вынікі. Не варта два разы наступаць на граблі.

Цяпер аб «правах» чалавека, якія так хвалююць амерыканцаў. У даны момант мая адзіная скарга ў адносінах веравызнання гэта тое, што храмы перапоўнены. Я магу ісці свабодна, але стаяць спакойна не магу. Думаецца, што мы яшчэ раз прыніжаем сваё мінулае і сваіх веруючых тым, што з храмаў робім музеі і канцэртныя залы. У многіх краінах, калі няма службы, храмы адкрыты для наведвальнікаў, якія могуць любавацца архітэктурай, іканапісам і г. д.

Я не адчуваю недахопу ў інфармацыі, наадварот. Я не паспяваю ўсё чытаць, слухаць, бачыць. І хоць крыху не хапае «плёткаў» (напрыклад, ці сапраўды Р. Рэйган жыве, прытрымліваючыся свайго гараскопа і г. д.), але ніколі мне гэта не заменіць «Огонька». Дарэчы, па чыстай выпадковасці мне ўдалося сёлета падпісацца на «Огонек» і на некаторыя «тоўстыя» часопісы.

Я адчуваю сябе свабоднай у Савецкім Саюзе. Гэтак жа магу сказаць і пра сваё амерыканскае жыццё. Адчуваю, але не зусім вольная, таму што ва ўсіх нас ёсць клопаты, адказнасць і надзеі. У ідэальным варыянце мы іх самі выбіраем, ці ствараем. Але асабістыя і грамадскія інтарэсы часам ідуць уразрэз адзін з другім (выплата і прымяненне падаткаў, месца і час забастовак і дэманстрацый, медыцынскае абслугоўванне — эфектыўнасць і расходы, свабода друку — парнаграфія і насілле, уласны ўчастак на беразе мора — грамадскі пляж і г. д.). Маё новае грамадзянства дае мне новыя, іншыя клопаты, у прыватнасці, і аб свабодзе і дэмакратыі. Так, час цяпер цікавы і няпросты. Пераацэньваецца ўчора, перарабляецца сёння і плануецца новае заўтра. Думаю, што існуюць аптымальныя адносіны асабістага і калектыўнага. Іх яшчэ трэба знайсці. Ва ўсякім выпадку, я спадзяюся тут знайсці сваю будучыню. Бадай, Савецкі Саюз сёння — гэта адно з самых цікавых месцаў у свеце.

**Аляксандра ЗЯЗЮЛІНА.**



**НА ЗДЫМКУ: Аляксандра ЗЯЗЮЛІНА з мужам Аляксандрам.**

**Фота С. КРЫЦКАГА.**

## ЧТОБЫ НЕ ПОВТОРЯТЬ ОШИБОК В БУДУЩЕМ, НАДО ХОРОШО ЗНАТЬ ПРОШЛОЕ

# НАГОРНЫЙ КАРАБАХ: ВЗГЛЯД ОЧЕВИДЦЕВ

## СТЕПАНАКЕРТ ЗА ДЕНЬ «ДО»

Из Москвы в Степанакерт, центр Нагорно-Карабахской автономной области (НКАО) можно добираться двумя путями — через Ереван или Баку. В Нагорном Карабахе спросят не раз: в каком из этих городов ты делал пересадку? Если летел через Ереван, принимают радушно. На бакинских транзитников посматривают, мягко говоря, настороженно.

Мы все-таки выбрали «официальный» путь, через Баку. В том числе и потому, что хотели выяснить взгляд на события в НКАО Юрия Федорова — научного сотрудника Института философии и права Академии наук Азербайджана, одного из серьезных специалистов в области социальной психологии. Весной этого года, когда ситуация в НКАО и вокруг нее отличалась остротой и было особенно важно предвидеть ее развитие, Федоров с группой ученых попытался смоделировать процесс конфликта. Методом «мозгового штурма» была построена достаточно сложная (с тремя десятками составляющих) модель, ее переложили на компьютерный «язык». Прогноз, полученный с помощью ЭВМ, поступал в отдел науки ЦК Компартии Азербайджана.

— Националистически настроенная интеллигенция, составляющая видимый издали гребень волны конфликта, не всегда осознает, какие реальные силы управляют его течением из глубины, — считает Федоров. — В разжигании национальной розни эти силы увидели реальное средство переключения внимания народа, отвлечения его от целей и задач перестройки. Более того: средство компрометации перестройки как системы идей, ценностей, конкретных шагов. Для этих сил вопрос стоит ребром: любой ценой удержать структуру власти, к которой они приспособились и которую приспособили к себе.

О том, что ситуация в НКАО, какой мы ее застали в середине сентября, не была «громом среди ясного неба», говорят выводы не только той недолго просуществовавшей исследовательской группы, в которую входил Юрий Федоров. (С первыми признаками «потепления» ситуации в НКАО ее распустили, демонтировав реальный инструмент серьезного анализа проблемы и научного прогноза событий). Еще до отъезда в Карабах, в Москве нам довелось познакомиться с датированным началом года «меморандумом» одного из сотрудников Института мировой экономики и международных отношений (ИМЭМО) АН СССР. «В Карабахе неизбежна эскалация напряженности, вплоть до межэтнических столкновений» — таким был вывод московского ученого. О психологической подкладке конфликта он писал: «В целом мы имеем дело с массовым движением, в основе которого лежит застарелый комплекс горечи, обиды и глубокой убежденности в исторической несправедливости». Эти слова нам не раз потом вспоминались в НКАО.

Необходимое пояснение. В Степанакерт мы приехали 13 сентября, уехали из него 17-го, как выяснилось позже — за сутки до начала новой полосы развития событий, самой острой из всех. Сегодня, когда в Степанакерте снова работают магазины и общественный транспорт, большинство предприятий, когда преодоление отчуждения между двумя народами, издавна живущими на одной земле, стало одной из центральных тем обсуждения специально встретившихся именно здесь, в Степанакерте, первых секретарей ЦК Компартий Азербайджана и Армении Везирова и Арутюняна, мы сами себе задаем вопрос: стоит ли писать о днях перед 18 сентября,—ведь так много воды утекло за минувшие месяцы? Стоит ли ворошить полосу, закончившуюся обвалом событий — столкновениями на национальной почве (в которых применялось в том числе и огнестрельное оружие), введением «особого положения» в НКАО и в ряде прилегающих районов Азербайджанской ССР? Решили — стоит: взгляд очевидца небесполезен историку, политику, просто заинтересованному в достоверной информации человеку. Чтобы не повторять ошибок в будущем, надо хорошо, в деталях знать прошлое, в том числе и день, едва минувший.

Итак, Степанакерт середины сентября. Город почти курортный, это впечатление усиливают группы людей, беседующих на армянском. Впечатление такое, что это отдыхающие, которым некуда спешить. Спешить этим людям действительно некуда, они на улицах потому, что в городе снова забастовка. Напряженность нарастает, но пока подспудно. В лицах, позах, походке солдат, патрулирующих по улицам группами по 4—5 человек (бронежилеты, каски на поясе, огнестрельного оружия нет, в руках пластиковый щит, на боку резиновая дубинка), еще нет тревоги. Тревога в глазах женщин, в числе забот которых есть и традиционная: чем кормить семью. Набор товаров в продовольственных магазинах небогат, на рынке — голые прилавки, и только в одном уголке несколько кучек зеленых стручков фасоли да кукурузных початков.

...Слово «Степанакерт» во второй половине лета почти исчезло со страниц наших газет, и это казалось добрым признаком стабилизации обстановки. После июльского заседания Президиума Верховного Совета СССР жизнь здесь действительно медленно, но двинулась ко входу в нормальную колею. Начали возвращать «забастовочные долги» предприятия, на совхозных полях торопились с заготовкой кормов. Плановики разрабатывали программу социально-экономического развития НКАО — на эти нужды решением правительства СССР было выделено 400 миллионов рублей. Так что появилась возможность наконец-то взяться за реконструкцию водопроводных сетей, аэропорта, строительство многих необходимых объектов. И люди начали браться.

Но под верхним, видимым слоем жизни Нагорного Карабаха продолжались процессы брожения, которые то здесь, то там поддерживались горючими материалами. Расхожую формулу: «все или ничего!» мы слышали и от студентов Степанакертского пединститута, когда ездили с ними на совхозные виноградники, и от некоторых руководителей.

Не нам, пробывшим в НКАО несколько дней, с порога отрицать право на ту или иную позицию. Но все-таки: если уж поставлен вопрос о социальном, экономическом , национальном благополучии, то, наверное, и решать его должно покрупному: обуздывая эмоции, в контексте реальных условий, последовательно продвигаясь к намеченным целям.

Мы жили в степанакертской гостинице вместе с армянами-беженцами из соседней Шуши. А в Шушу между тем съехались из Армении — гонимые развитием событий — 1 300 азербайджанцев. Около двух с половиной тысяч беженцев из Сумгаита кое-как растолкали по общежитиям Степанакерта. Появление беженцев усиливало напряженность. Достаточно было малейшей искры, чтобы возник инцидент. И они возникали. То перевернули на рынке машины азербайджанцев, привозивших фрукты и овощи (с тех пор рынок и опустел). То в одном из армянских сел Шушинского района без согласия жителей заложили фундаменты под строительство домов для тех азербайджанцев, что прежде жили в Армении. И сразу ответные санкции: на железнодорожной станции придержали стройматериалы, адресованные Шуше.

Увеличиваясь, количество горючего материала подготавливало новое качество ситуации.

В конце августа состоялась очередная сессия областного Совета народных депутатов Нагорного Карабаха. Она подтвердила «твердую решимость... настойчиво добиваться вывода НКАО из административного подчинения Азербайджанской ССР и воссоединения ее с Армянской ССР». Продемонстрировать «твердую решимость» должны были, видимо, и те детишки-дошкольники, которых воспитательница при нас водила по площади у областного комитета партии. Размахивая флажками Армении, дети послушно скандировали: «Миацум!» («Воссоединение!»). «Воссоединение», несмотря на то, что Верховный Совет Азербайджанской ССР отреагировал на просьбу отрицательно? Несмотря на то, что Президиум Верховного Совета СССР, рассмотрев вопрос на специальном заседании в июле, заявил о невозможности «изменения границ и установленного на конституционной основе национально-территориального деления Азербайджанской ССР и Армянской ССР»?

Сохранение лозунга, фетишизация его были показателем политической «погоды» в НКАО, предвещали приближение шторма.

## ТРЕТЬЯ ПОПЫТКА. НЕ ТОЛЬКО ХРОНИКА СОБЫТИЙ

Толчком к взрыву эмоций в Степанакерте послужила явно не продуманная, не учитывавшая особенности места и времени акция правоохранительных органов. Бригада сотрудников областной и Азербайджанской республиканской прокуратур, затеяв проверку работы бюро ритуальных услуг, опечатала документацию бюро и занялась кладбищем, каменными надгробиями. По городу покатился слух, поднимающий даже больного с постели: «Азербайджанцы топчут могилы наших отцов!». 12 сентября многотысячная толпа взяла прокуратуру в осаду.

От многих мы слышали предположение, что через надгробия работники правоохранительных органов предполагали выйти на Аркадия Манучарова, директора Степанакертского комбината строительных материалов. (Этот комбинат поставляет гранитные и мраморные блоки для памятников).

Манучаров — один из лидеров движения, добивающегося отделения НКАО от Азербайджана. Если передать кратко его рассказ о себе, картина будет выглядеть так: в пятидесятых годах закончил в Москве институт, работал в Челябинске, затем вернулся в Степанакерт. В 1965 году «на волне смены партийного лидера», вместе с дюжиной единомышленников, среди которых были руководители областного масштаба, вплотную занимался вопросом «отделения». С петицией, под которой стояло, по его словам, 80 тысяч подписей, побывал в Москве, у «самого Суслова». Тот обещал разобраться. Но вскоре «главных зачинщиков убрали без лишнего шума» с руководящих постов, а Манучарова, работавшего начальником областного управления строительства, и вовсе выдворили за пределы НКАО. Возвращение заняло годы.

— Мы долгое время не афишировали свою деятельность, — говорил нам Манучаров. — Потом легализовались, создали объединение «Крунк» («Журавль»). Мы не намерены в условиях Азербайджана решать вопросы социально-экономического развития Карабаха. Это наша третья попытка поставить ребром политический вопрос. Что же касается компромата, меня уже 14 раз проверяли. Ничего не нашли. К погрому прокуратуры отношения не имею.

Работников прокуратуры, которую толпа буквально взяла в осаду, забросала камнями, с трудом удалось вывезти за пределы области. С того дня и начался в Степанакерте новый этап забастовок.

На «лобовой» вопрос — кто, по его мнению, дирижирует волнениями? — Борис Мальков, секретарь областного комитета компартии, ответил:

— Не надо так упрощать нашу проблему. Тут есть, конечно, националистические группировки. Но сколько бы ни старались экстремисты, масса людей не поднимется без близких ей лозунгов. В переполненную чашу достаточно нескольких капель, чтобы полилось через край.

На 18 сентября в Степанакерте намечался многотысячный митинг с факельным шествием. Мы поинтересовались у организаторов: по какому поводу мероприятие? Нам ответили: «По поводу 68-й годовщины бакинского геноцида». В такое-то время подсыпать порох в огонь? «Порядок гарантируем», — в тоне организаторов сквозила снисходительность.

События, однако, пошли по пути, наихудшему из возможных. Митинг оборвался, часть его участников оказалась в азербайджанском селе Ходжалы. Пролилась кровь, от бутылок с зажигательной смесью начали гореть дома.

Насилие, разрастаясь лавинообразно, поставило под угрозу жизнь множества людей обеих национальностей, в том числе женщин, детей, стариков. Оно было укрощено силой же: особое положение и комендантский час позволили разрядить обстановку, сделать первые шаги к нормализации ситуации.

Вопросы — что дальше? где, на каких путях искать решения к проблеме НКАО? — задаются сегодня не только в Нагорном Карабахе, не только в Азербайджане и Армении.

Демократизация экономики и политики, постепенный отход от сталинской концепции Союза, когда верховенствовали вертикальные связи, когда все произведенное нациями и народностями сваливалось в общий «амбар», а потом перераспределялось кем-то; перевод на прямые связи, расширение прав регионов — все это будет утверждать и в межнациональных отношениях справедливость, ставить многие проблемы с головы на ноги, перекрывать пути к национальному иждивенчеству. Не исключено, что в поисках простейшего решения непростых задач кое-кто будет останавливать взгляд на «огороде» соседей: кому он раньше принадлежал? Такие «спорные» межи есть во многих союзных республиках. Но всем нам так или иначе предстоит жить друг около друга, и ни одна территория не отодвинется от соседа (ни Нагорный Карабах от Азербайджана, ни Азербайджан от Нагорного Карабаха, в том числе), даже если кто-то и передвинет на картах границы административных делений.

Проблемы межнациональных отношений заставляют по-новому ставить вопрос об ответственности интеллигенции перед своим народом и перед страной в целом, о ее вкладе в перестройку.

Сдвиги к демократизации общественной жизни уже сегодня подвергают суровому испытанию тех, кто претендует на право быть духовным лидером. С усеченной догматизмом культурой, с недоученностью и недовоспитанностью кроме масла к огню междоусобиц ничего не принесешь. Нужны иные, современные взгляды на проблему межнационального общежития. Ситуация вокруг Нагорного Карабаха в этом еще раз убеждает. Как это ни печально, но мы видели тех, кто неустанно ведет поиск «исторических» аргументов, призванных подтвердить притязания на принадлежность земли тому или иному народу. Оборотная сторона «аргументации» такого рода и их прямое следствие — взгляд на соседа, как на незаконно живущего рядом с тобой. От подобного взгляда — только шаг до попытки создать ему такие условия, которые не оставляют иного выхода, кроме бегства или принятия ответных мер, — столь же антигуманных в основе. Идущие вперед с головой, повернутой назад, не имеют шанса удержать равновесие...

«Проблема Карабаха» родилась не вчера. Вчера, в годы застоя, — усилилась, проросла новыми побегами. В Баку при Гейдаре Алиеве появился роскошный музей 18-й армии. К Азербайджану эта армия отношения не имела, зато в ней служил Леонид Брежнев.

Об этом музее и затраченных на него средствах трудно было не вспомнить, скажем, в Мардакертском районе НКАО, где в самом райцентре и остальных 55 населенных пунктах нет ни одной бани. А сколько бань, магазинов, школ, Домов культуры, библиотек не построено из-за других «особых объектов» на территории того же Азербайджана?

Многих мы спрашивали: какими они видят реалистические пути решения карабахской проблемы? Был среди ответов такой, который совпал и с нашим взглядом: усиление политической автономии — и переход на принципы регионального хозрасчета. О мощи потенциала последнего не только в собственно экономической, но и в социальной и культурной сферах, о его способности радикально повлиять на будущее межнациональных отношений сегодня можно только догадываться. Впрочем, догадываться достаточно уверенно, основываясь на анализе построенных в различных регионах страны научных моделей.

Серьезное, надежное решение проблемы Карабаха — дело завтрашнего дня. Сегодняшнее выглядит скромнее: нормализация ситуации. Этим сказано все.

**Михаил ПОЛТОРАНИН,**
**Юрий КАЗАКОВ.**

(АПН).

## ВУЧОНЫЯ — АБ ВОСТРАЙ АКТУАЛЬНАЙ ПРАБЛЕМЕ

# ПАШЫРАЦЬ ЖЫВОЕ БЫЦЦЁ РОДНАЙ МОВЫ

Сярод шэрагу праблем, што доўгі час замоўчваліся або асвятляліся толькі з параднага боку, ва ўмовах сацыяльна-палітычнай перабудовы важнае месца заняло пытанне, якое можна сфармуляваць так: ці магчыма захаваць і развіць традыцыі нацыянальных культур народаў СССР ва ўмовах інтэрнацыяналізацыі духоўных працэсаў, арыентаваных на экстэнсіўнае пашырэнне рускай культуры? Будзем шчырымі ў гэтым далікатным пытанні і скажам: сёння не толькі культуры так званых малых народаў РСФСР, але і такіх савецкіх рэспублік, як Беларусь і Украіна, могуць стаць, мякка кажучы, праблематычнымі, калі кожны з гэтых народаў не здолее захаваць і пашырыць жывое быццё сваёй роднай мовы.

У чым тут сутнасць праблемы? Яна неадназначная, шматгранная, аднак у рэшце рэшт выяўляецца ў супярэчнасці паміж культурай, з аднаго боку, інфармацыяй і рознымі сферамі грамадскага кіравання, з другога. Сферы інфармацыі і кіравання аб'ектыўна схіляюцца да стандартызацыі і уніфікацыі. А для духоўнай культуры уніфікацыя — смяротная небяспека. Аднак памылкова думаць, быццам бы выцясненне нацыянальных моў з грамадскага жыцця і масавай культуры — толькі аб'ектыўны працэс, незалежны ад нашых паводзін і грамадскай волі. Калі б мы ўважліва прааналізавалі адпаведныя падзеі ў гістарычным плане, то не маглі б не заўважыць, што ў вытоках гэтых негатыўных з'яў былі суб'ектыўныя, больш таго — валюнтарысцкія рашэнні.

На жаль, заканадаўчыя органы рэспублікі далёка не заўсёды былі тут гаспадарамі сітуацыі, часта аддавалі ініцыятыву шматлікім бюракратычным «сферам», мірыліся з незайздроснай функцыяй рэгістратара фактаў. Вось кароткі гістарычны экскурс. У 20-я гады на аснове рашэнняў X і XII з'ездаў партыі праводзілася палітыка, якая забяспечвала фактычнае раўнапраўе роднай мовы, яе ўжыванне ва ўсіх сферах грамадскага жыцця. У 22-м артыкуле Канстытуцыі БССР 1927 года было запісана: «Дзякуючы значнай перавазе ў Беларускай Сацыялістычнай Савецкай Рэспубліцы насельніцтва беларускай нацыянальнасці, беларуская мова выбіраецца як мова пераважная для зносін паміж дзяржаўнымі, прафесіянальнымі і грамадскімі ўстановамі і арганізацыямі». У так званай «сталінскай» Канстытуцыі БССР 1937 года асобны артыкул пра беларускую мову выключаны, аднак і ў ёй абвяшчалася, што права на адукацыю ў рэспубліцы забяспечваецца побач з іншымі гарантыямі, «навучаннем у школах на роднай мове». А ўжо Канстытуцыя БССР 1978 года, якая дзейнічае сёння, дапускае толькі «...магчымасць навучання ў школе на роднай мове».

Факты сведчаць, што такая абстрактная, фармальна-юрыдычная магчымасць не стала рэальнасцю. Паводле перапісу 1979 года, 79,4 працэнта насельніцтва БССР складаюць беларусы, прычым 83,5 працэнта з іх пішуць роднай беларускую мову. А між тым каля двух мільёнаў вучняў рэспублікі вучацца ў рускамоўных школах і толькі крыху больш трохсот тысяч — у сельскіх беларускамоўных, што складае ўсяго толькі каля 14 працэнтаў школьнікаў. Але нават і гэтыя школы шмат дзе толькі на паперы беларускія, бо выкладанне ўсіх прадметаў, апрача беларускай мовы і літаратуры, і ўся пазаўрочная праца ў іх праводзіцца, як правіла, па-руску. У гарадах БССР, дзе беларусы складаюць 71,5 працэнта жыхароў, няма ніводнай беларускай школы. На 1987/88 навучальны год у гарадах рэспублікі было дзевяць беларускамоўных класаў у рускіх школах, у кожным з іх навучалася па 10—15 вучняў.

Такую сітуацыю руска-беларускага двухмоўя ў Беларусі шмат хто схільны тлумачыць вынікам «свабоднага», асабістага выбару грамадзян нашай рэспублікі. Аднак большасць іх будзе заўсёды выбіраць тую мову, якой пераважна карыстаюцца ў сістэме дзяржаўна-палітычнага кіравання і народнай адукацыі. Таму ў гэтым выбары павінна ўдзельнічаць грамадства і дзяржава. Сёння ва ўмовах перабудовы і адраджэння сацыялістычнай дэмакратыі органы народнай асветы, магчыма, і хацелі б выправіць становішча, якое склалася з нашай мовай, але сур'ёзных поспехаў тут пакуль што няма. Бо гэтая праблема наогул не вырашыцца толькі на шляху асветніцтва. Трэба вярнуць роднай мове яе законнае месца ва ўсіх сферах грамадскага быцця і культуры, і тады школа сама па сабе, без загаду зверху дапасуецца да [illegible]льных умоў жыцця. Нельга дапусціць, каб народ згубіў сваю мову. Да гэтага, на жаль, ідзе, бо ў сучасным горадзе яна становіцца прафесіянальнай мовай пісьменнікаў, часткі журналістаў, выкладчыкаў і навуковых супрацоўнікаў, на тэлебачанні.

Але чаму, гаворачы пра перспектывы развіцця нацыянальнай культуры ва ўмовах перабудовы, мы затрымліваем увагу на крызісным стане, у якім апынулася родная мова беларусаў? Мае апаненты могуць запярэчыць: мова — не ўся нацыянальная культура, ёсць іншыя яе часткі, напрыклад, фальклор, традыцыі прафесійнага мастацтва, навука. Так, але ж нацыянальная мова — гэта фундаментальная духоўная каштоўнасць народа, на ёй грунтуюцца і ёю жывяцца ўсе іншыя кампаненты культуры.

«Ці маем мы права выракацца роднай мовы?» — пытаўся ў беларусаў Янка Купала яшчэ ў 1914 годзе, калі друкаваў пад такім загалоўкам свой артыкул у газеце «Наша ніва». Паслухаем паэта, які быў сумленнем народа: «Скажа хто-небудзь: хай была б адна мова на свеце, бо і праўда, нашто іх столькі... Дай мы, каб было аднаго толькі гатунку дзерава або аднаго толькі гатунку жывёліна ці збажына, то напэўна лёгка дагадацца, што на свеце было б далёка не так прыгожа, як цяпер ёсць. Але калі дзерава ці жывёліна ёсць толькі паверхнявай аздобай зямлі, то мова людзей ёсць як бы цэнтрам гэтага жыцця, яго душой, яго ўнутранай аздобай».

Перад намі — духоўна-эстэтычны аргумент на карысць развіцця нацыянальных моў. Сапраўды, краса жыцця і прыгажосць мастацтва — гэта не шэрая аднастайнасць, а гарманічнае адзінства ў шматграннасці, «сімфонія» галасоў, фарбаў і пластычных вобразаў. Але гэта такая эстэтыка, якая мае непасрэднае дачыненне да сацыялогіі, палітыкі, маралі і, урэшце, экалогіі культуры.

Без выратавання роднай мовы, без гарантыі яе будучыні немагчымы прагрэс у літаратуры, іншых відах мастацтва. Акрамя таго, далучанасць народаў да роднай мовы — важны фактар палітычнай стабільнасці і маральнага здароўя шматнацыянальнага грамадства. І яшчэ. Калі мы сёння дазволім, каб назаўсёды счэз які-небудзь від раслін ці жывёл, то ў будучыні чалавецтва пабачыць мёртвую зямлю. А калі сёння знікне хоць бы адна, няхай самая «малая» мова, то гэта азначае, што агульначалавечая культура прыкметна збяднее.

Трэба яшчэ мець на ўвазе наканаваны беларускаму народу лёс. Яго мова ў XVII стагоддзі страціла ранейшы статус мовы дзяржаўнай, на якой пісаліся мастацкія і навуковыя творы, вялося дзяржаўнае справаводства Вялікага княства Літоўскага, ствараліся выдатныя прававыя помнікі (Статуты 1529, 1566 і 1588 гадоў), і аж да Кастрычніцкай рэвалюцыі займала незайздроснае становішча неафіцыйнай, «простай» (з пункту гледжання пануючых класаў, «халопскай», або «мужыцкай») мовы. У выніку гэтага спецыфічнай формай развіцця беларускай культуры сталі больш ці менш працяглыя перыяды паскоранага засваення айчыннага і сусветнага духоўнага вопыту. Гэтыя зорныя часіны ў гісторыі народа справядліва названы эпохай нацыянальнага Адраджэння. А пачыналася яно заўсёды з абвяшчэння роднай мовы вялікай духоўнай каштоўнасцю, што выклікае да жыцця іншыя віды і формы культуры, выконваючы такім чынам праграмную, культурна-палітычную функцыю. У свой час яе глыбока разумеў беларускі ўсходнеславянскі першадрукар Ф. Скарына. Узнёсла і ўсхвалявана пісаў ён пра спадчынную адвечнасць любові да Радзімы і матчынай мовы: калі ўжо звяры, птушкі і нават рыбы ведаюць свае норы, гнёзды і віры, а пчолы «боронять ульев своих», тым больш людзі «игде зродилися и ускормлены суть по Бозе, к тому месту великую ласку имають». Вось чаму казаў ён пра сябе: друкую кніжкі роднаю моваю — «наболей з тое причины, иже мя милостивый Бог з того языка на свет пустил».

З асветніцкай дзейнасці Скарыны пачаўся адлік першага беларускага Адраджэння. Здабыткі яго вялікія — дзяржаўнасць роднай мовы, пачатак станаўлення нацыянальнай культуры, узнікненне свецкай літаратуры, іншых відаў мастацтва. Да дзеячаў гэтага культурна-асветнага руху належалі таксама выдатны паэт Мікола Гусоўскі, рэфарматары Васіль Цяпінскі і Сымон Будны, урэшце, паэт і грамадскі дзеяч Сімяон Полацкі, які з сярэдзіны 60-х гадоў XVII стагоддзя выконваў культурна-адраджэнцкую місію ў Расіі.

Другое, спецыфічна беларускае Адраджэнне ахоплівае доўгія перыяды станаўлення новай беларускай літаратуры ў XIX стагоддзі (рэвалюцыйная і публіцыстычная дзейнасць Кастуся Каліноўскага, творчасць Вінцука Дуніна-Марцінкевіча, Францішка Багушэвіча і інш.) і стварэння нацыянальнай літаратурнай класікі — творчасць Алаізы Пашкевіч-Цёткі, Янкі Купалы, Якуба Коласа, Максіма Багдановіча іх паслядоўнікаў — пісьменнікаў і публіцыстаў, якія згрупаваліся вакол штотыднёвіка «Наша ніва», створаных пры ёй выдавецтве, бібліятэцы, музеі, тэатральна-музычных аб'яднаннях. Якраз тады канчаткова сфарміравалася новая літаратурная мова беларусаў, вызначылася нацыянальная спецыфіка беларускай культуры — яе арганічная народнасць, дэмакратызм, маральны рыгарызм, накіраванасць на інтэнсіўнае паглыбленне ў сябе, «інтравертнае» развіццё, а не на экстэнсіўна-вонкавае, асімілятыўнае пашырэнне.

Пасля Кастрычніцкай рэвалюцыі 1917 года на Беларусь прыйшла трэцяя адраджэнцкая хваля. Яна падняла з народных глыбінь ужо не толькі таленавітыя адзінкі, а цэлыя кагорты паэтаў, празаікаў, вучоных, артыстаў, дзеячаў выяўленчага мастацтва. Стваралася новая культура — сацыялістычная па ідэалах і нацыянальная па іх творчаму ўвасабленню. Для гэтага «зорнага» перыяду нашай культуры характэрна спаборніцтва розных творчых аб'яднанняў («Маладняк», «Узвышша», «Полымя»» і інш.), шматграннасць мастацкіх кірункаў і стыляў, станаўленне прафесіяналізму ў тэатральным, музычным, выяўленчым і іншых мастацтвах. У трагічнае культаўскае дзесяцігоддзе (1929—1939 гады) гэты інтэнсіўны культурна-асветны рух быў прыпынены, інтэлектуальны ўровень грамадства значна зніжаны масавымі рэпрэсіямі.

Чацвёртае па парадку і другое ў Савецкай Беларусі адраджэнне нацыянальнай культуры пачалося ў другой палове 50-х гадоў пасля XX з'езда КПСС. За дзесяць гадоў духоўная атмасфера ў рэспубліцы непазнавальна абнавілася, у літаратуру і мастацтва вярталіся імёны, нават цэлыя школы і кірункі, якія раней на падставе паклёпніцкіх абвінавачванняў у «буржуазным нацыяналізме» былі выкраслены з традыцый айчыннай культуры. Парадокс гэтага апошняга этапу культурна-нацыянальнага Адраджэння ў тым, што найбольшы свой плён ён прынёс у 60-х — пачатку 80-х гадоў — у перыяд сацыяльна-палітычнага застою. Гэты эфект «змяшчэння ў часе» фундаментальных форм духоўнай культуры тлумачыцца, па-першае, неабходнасцю пэўнай лініі разбегу для творчага выяўлення ранейшых і выхавання новых талентаў, па-другое, велізарнай тратай духоўных сіл для стварэння новых мастацкіх і навуковых каштоўнасцей у складаных умовах няпоўнага, кампраміснага дэмакратызму хрушчоўскага этапу і брэжнеўскага застойнага перыяду.

Мастацкая літаратура і сёння застаецца вядучым звеннем у сістэме беларускай нацыянальнай культуры, і гэта яшчэ раз сведчыць аб праграмным значэнні нацыянальнай мовы. Наша літаратура сёння — гэта ўжо літаратура не толькі рэгіянальная, бо яе высокія дасягненні — аповесці Васіля Быкава, раманная трылогія Івана Мележа, проза Янкі Брыля, Уладзіміра Караткевіча, Віктара Казько, паэзія Максіма Танка, Аркадзя Куляшова, Рыгора Барадуліна, іншых паэтаў і празаікаў — добра вядомыя ў Савецкім Саюзе і за яго межамі. Пісьменніцкая арганізацыя — у авангардзе руху за духоўную і палітычную перабудову.

У бягучым літаратурным працэсе на першы план выходзіць публіцыстыка. Важнай з'явай перабудовы стала вяртанне народу забытых і па-паклёпніцку абвінавачаных пісьменнікаў, напрыклад, Алеся Гаруна, аднаўленне горкай праўды аб рэпрэсіях 30-х гадоў. Што ж датычыцца паэзіі, прозы і драматургіі, то адчуваецца тут пэўная зморанасць нашай літаратуры, што можна тлумачыць духоўнымі стратамі ў папярэднія гады застою. Аднак галоўная прычына, што стрымлівае прыліў новай хвалі талентаў, мне бачыцца ў небяспечным звужэнні сферы жывога бытавання роднай мовы і крызісе традыцыйнай вёскі, якая раней была генератарам кадраў нацыянальнай інтэлігенцыі.

Развіццё іншых відаў мастацтва сёння вельмі нераўнамернае. Тут ёсць прыкметны рух наперад, ён выявіўся, напрыклад, у станаўленні беларускай школы выяўленчага мастацтва (творчасць М. Савіцкага, Л. Шчамялёва, У. Стальмашонка, А. Марачкіна, М. Купавы, С. Гарбуновай, У. Савіча, Я. Куліка, іншых жывапісцаў, графікаў, скульптараў). Яшчэ ў пачатку нашага стагоддзя фарміраваўся беларускі тэатр (творчасць Ігната Буйніцкага і яго паслядоўнікаў). У 20-я, а затым у 50—60-я гады беларускае тэатральнае мастацтва было на пад'ёме. Аднак сёння (і гэта прызнаюць тэатральныя дзеячы) тут наступіў спад. Тлумачыцца ён, на маю думку, доўгім адрывам большасці акцёрскіх і рэжысёрскіх кадраў ад традыцый нацыянальнай культуры, найперш — ад роднай мовы і літаратуры. Глыбокай крыніцай прафесійнага мастацтва з'яўляецца фальклор. І якраз тут патрэбна навукова абгрунтаваная праца па яго адраджэнню.

Сёння стаў відавочным разрыў паміж адносна высокім узроўнем беларускай культуры, яе грунтоўнай распрацоўкай у творчых саюзах, навуковых арганізацыях і выдавецтвах, з аднаго боку, штодзённым побытам і масавай культурай, з другога боку. Вось толькі адзін прыклад. Па энцыклапедычных выданнях БССР ідзе наперадзе ў нашай краіне, тут выдадзены 12-томная «Беларуская Савецкая Энцыклапедыя», 5-томная «Энцыклапедыя літаратуры і мастацтва Беларусі», выйшаў энцыклапедычны даведнік «Янка Купала», выдадзены аднатомнік «Францыск Скарына і яго час», іншыя кнігі. А між тым выходзяць яны невялікімі тыражамі ў 7,5—10 тысяч экземпляраў, ды і тыя часам пыляцца на паліцах кнігарняў. Пустыя канцэртныя і тэатральныя залы, на вялікі наш сорам, — таксама «беларускі феномен».

Дзе выйсце з такога супярэчлівага становішча? Або, ставячы пытанне шырэй, спытаем сябе: ці будзе яшчэ адно, цяпер ужо пятае беларускае Адраджэнне? Пэўныя прыкметы яго ёсць. Маю на ўвазе грамадскі, навуковы і літаратурна-мастацкі рух моладзі, яе высокую грамадзянскую, патрыятычную і маральную свядомасць. Поспех гэтага руху залежыць ад таго, наколькі мы ў агульнадзяржаўным маштабе адродзім нацыянальную мову, аўтэнтычны фальклор, традыцыйную беларускую вёску, нарэшце — наколькі далучым гараджан — большасць насельніцтва рэспублікі — да традыцый беларускай культуры.

**Уладзімір КОНАН,**
**доктар філасофскіх навук.**

**РАМАН І. ПТАШНІКАВА «АЛІМПІЯДА»**

**НА ТЭЛЕЭКРАНЕ**



# З ДУМКАЙ АБ НАРОДЗЕ

...Звычайная вясковая хата. Не з тых вясковых будынкаў, якіх шмат з'явілася ў апошні час — дыхтоўных, абсталяваных сучаснай мэбляй, а жыллё, у якім гадавалася не адно пакаленне. Нічога лішняга і разам з тым — усё патрэбна. Сціплы ложак, засланы саматканай посцілкай, крыху прымятая падушка — няйначай на ёй нехта нядаўна спаў. Поруч стол, сякія-такія прылады, без якіх не абысціся ў гаспадарцы. А вось і сама гаспадыня — рухавая, з жывінкай у вачах, няўрымслівая, неспакойная. Толькі бачна, што і на ёй пакінуў след цяжар пражытых гадоў. І гэтая рухавасць, няўрымслівасць не могуць схаваць перажытае. Яно — у зморшчынках ля вачэй, у самавітасці, прадуманасці рухаў. Аднак галоўнае ўсё ж вочы — добрыя, што ніколі маніць не могуць.

Менавіта такой бачыць сваю гераіню, простую, вясковую даярку Алімпіяду, адна з вядучых актрыс Беларускага дзяржаўнага акадэмічнага тэатра імя Якуба Коласа, заслужаная артыстка БССР Таццяна Мархель. Той, хто знаёмы з творчасцю вядомага пісьменніка І. Пташнікава, ужо здагадаўся, што на гэты раз Т. Мархель мае дачыненне да яго рамана «Алімпіяда». Сапраўды, рэжысёр А. Гуткoвіч ставіць на Беларускім тэлебачанні спектакль «Алімпіяда» па ўласнаму сцэнарыю, у аснову якога пакладзены сюжэтныя калізіі гэтага твора.

Свой выбар на Т. Мархель ён спыніў не выпадкова, хоць на ролю прэтэндавалі і іншыя, не менш таленавітыя выканаўцы. Прываблівала жаноцкасць актрысы, яе здольнасць хутка пераўвасабляцца, ужываючыся ў новы вобраз. У даным выпадку, відаць, немалаважна і тое, што падзеі, якія адбываюцца ў рамане, у многім блізкія самой Т. Мархель. Але паслухаем, што гаворыць актрыса.

— Я не ведала, а, аказваецца, мы з Іванам Пташнікавым, па сутнасці, землякі. Праўда, ён родам з Лагойскага раёна, а я — са Смалявіцкага, але калі нацянькі, паміж [illegible]ымі вёскамі з паўтара дзес[illegible] кіламетраў. Чытаючы «Алімпіяду», я быццам удыхнула ў сябе паветра стыхіі, блізкай і зразумелай мне з маленства. З радасцю «пазнала» ў галоўнай гераіні сваю маму. Яна таксама засталася без мужа — бацька наш загінуў. Трое дзяцей, якіх, як кажуць, на ногі трэба паставіць. Адкуль толькі сілы брала! Але выжыла.— І працягвае:— У Пташнікава нічога надуманага, прыдуманага. У яго ўсё ад жыцця. У яго творах нават сама зямля дыхае. І часцінка гэтай зямлі — Алімпіяда. Вобраз аб'ёмны, маштабны, характар па-сапраўднаму народны.

Высокай думкі аб «Алімпіядзе» і сам А. Гутковіч, які ў свой час паставіў тэлеспектаклі па такіх творах, як «Трэцяе пакаленне К. Чорнага, «Людзі на балоце» І. Мележа, «Трывожнае шчасце» І. Шамякіна, «Чужая бацькаўшчына» В. Адамчыка. Ён вырашыў даць сцэнічнае жыццё «Алімпіядзе», бо лічыць раман гэты самым цікавым, значным творам сучаснай беларускай літаратуры пасля «Людзей на балоце». На думку А. Гутковіча, сёння якраз і патрэбны такія творы, у якіх, вобразна кажучы, закранаецца народная тэма.

— Людзі, падобныя Алімпіядзе, — гаворыць А. Гутковіч, — кіруюцца ў сваім паўсядзённым жыцці не лозунгамі, не шаблоннымі выразамі. Яны жывуць па высокаму рахунку ўласнага сумлення. Яны — соль самой зямлі.

Тэлеспектакль, які ставіцца з думкай аб народзе, вырашаецца як народная драма. Акрамя Т. Мархель, у ім заняты іншыя вядомыя выканаўцы, прадстаўлена і творчая моладзь. Дарэчы, гэта не першы зварот тэлебачання да прозы І. Пташнікава. У свой час сцэнічнае жыццё атрымалі яго аповесць «Тартак» і апавяданне «Сцяпан Жыхар са Сцешыц».

**Алесь МАРЦІНОВІЧ.**

**НА ЗДЫМКУ: Т. МАРХЕЛЬ у ролі Алімпіяды.**

**Фота У. КРУКА.**

*МЕРКАВАННЕ САЦЫЁЛАГА*

# ПЕРАБУДОВА: ПАЗІЦЫЯ ІНТЭЛІГЕНЦЫІ

**Аб пазіцыі інтэлегенцыі ў перабудове нямала спрачаюцца. Выказваюцца часам палярныя меркаванні, адны лічаць яе галоўным рухавіком перамен, іншыя — асноўнай сілай тармажэння. Свае думкі наконт гэтага выказаў у інтэрв'ю карэспандэнту Агенцтва друку Навіны Дзмітрыю РУДОЎСКАМУ доктар гістарычных навук Ігар БЯСТУЖАЎ-ЛАДА.**

*— Перш чым гаварыць аб пазіцыі інтэлігенцыі ў перабудове, неабходна, мусіць, вызначыць, якую катэгорыю насельніцтва варта лічыць інтэлігенцыяй...*

— У СССР сёння налічваецца 80 мільёнаў рабочых, каля 9 мільёнаў калгаснікаў і 43 мільёны служачых. Іх раней і лічылі інтэлігенцыяй. Аднак сказаць, што сёння ў краіне 43 мільёны інтэлігентаў, значыла б зграшыць супраць ісціны. І справа тут не толькі ў колькасці, але і ў якасці. Розніца паміж «сярэднім» інжынерам, педагогам, урачом і рабочым, які мае як мінімум поўную сярэднюю адукацыю, у шэрагу выпадкаў, на мой погляд, ледзь прасочваецца і па агульнай, і па прафесіянальнай культуры. Гэты факт і прымусіў спецыялістаў зрабіць перадыферэнцыяцыю.

Да інтэлігенцыі мы адносім людзей, якія маюць спецыяльную сярэднюю ці вышэйшую адукацыю і працуюць па спецыяльнасці альбо на пасадзе, раўнацэннай па складанасці сваёй спецыяльнасці.

Спрашчаючы нюансы, пад словам «інтэлігенцыя» мы можам мець на ўвазе дыпламаваных спецыялістаў, іх сёння 35 мільёнаў. Праўда, з іх 7 мільёнаў добраахвотна перайшлі ў рабочыя, таму што ў нас многія рабочыя атрымліваюць зарплату, большую чым інжынеры. Такім чынам, фармальна ў нас 28 мільёнаў інтэлігентаў.

*— Ці можна пры такім фармальным аб'яднанні 28 мільёнаў чалавек гаварыць аб нейкай агульнай пазіцыі інтэлігенцыі ў адносінах да перабудовы?*

— Па-сапраўднаму інтэлігентны чалавек заўсёды «за» перабудову. Калі ж падыходзіць да гэтага пытання па фармальнай адзнацы, я б прапанаваў простую градацыю: прыхільнікі і праціўнікі.

Скажам, хто ў нас праціўнікі перабудовы? Іх тры тыпы: першы — гэта людзі, якія прыстасаваліся і якім ёсць што страчваць. Другі тып — вельмі вялікая група зацікаўленых у захаванні свайго статус-кво. Размова ідзе як мінімум аб кансерватыўна настроенай частцы кіраўнікоў, а як максімум — аб значнай частцы увогуле ўсіх служачых, над якімі навіс дамоклаў меч скарачэння. І, нарэшце, трэці, асобы праціўнік перабудовы — інертнасць, апатыя, уласцівая многім людзям увогуле, і асабліва дэмаралізаваным дзесяцігоддзямі культу асобы. Гэта вельмі моцны фактар тармажэння.

Гаворачы аб сілах руху, я таксама не стаў бы сцвярджаць адназначна: інтэлігенцыя — за перабудову, а астатнія — супраць. Усё залежыць ад суб'ектыўных і аб'ектыўных пазіцый, бо і прыхільнікі ў[illegible]а таксама могуць быць падзелены на тры групы.

Першая ўключае людзей незалежна ад таго, хто яны: інтэлігенты, служачыя, рабочыя, якія [illegible]лу свайго выхавання, пс[illegible]гічных якасцей выступаюць за перабудову. Да другой адносяцца людзі, якія адчуваюць, што пацярпелі ў гады застою і спадзяюцца на маральны і матэрыяльны рэванш. І трэцяя, самая вялікая група, — тыя, хто звязвае з перабудовай паляпшэнне свайго матэрыяльнага становішча.

*— Для большасці прадстаўнікоў інтэлігенцыі, асабліва тэхнічнай, сёння характэрны невысокі сацыяльны прэстыж і нізкая заработная плата. Ці прапаноўвае перабудова выйсце з існуючага становішча?*

— Так, прапаноўвае. У нас ёсць такія лічбы: 32 мільёны лішніх месцаў і 16 мільёнаў вакансій. Прычым вакансіі існуюць ля станкоў, прылаўкаў, за рулём, а так званая «сінекура» ў большасці знаходзіцца ў сферы тых самых 43 мільёнаў служачых, хаця ёсць лішнія месцы і ў рабочых. У снежні мінулага года было вырашана пачаць звальненне 16 мільёнаў чалавек з «лішніх» пасад: 3 мільёны да 1990 года і 13 мільёнаў да 2000 года. Намечана тры каналы рэалізацыі гэтага рашэння: закрыццё пасад, з якіх ідуць на пенсію, прафесійная перападрыхтоўка і, нарэшце, развіццё кааперацыі і індывідуальнапрацоўнай дзейнасці. З гэтых трох напрамкаў самым лёгкім і бяскроўным мог бы стаць першы, калі б не адчайнае супраціўленне бюракратычнага апарату. Вялікія перспектывы мае і развіццё кааперацыі, куды плануецца залучыць 20—30 мільёнаў чалавек. Сёння там працуе пакуль каля мільёна.

Іншымі словамі, ліквідацыя дыспрапорцый у вытворчай структуры грамадства дапаможа вярнуць інтэлігенцыі страчаны прэстыж, узніме ўзровень заработнай платы за кваліфікаваную працу, што ў сваю чаргу адаб'ецца і на павышэнні актыўнасці пазіцыі асноўнай масы інтэлігентаў у перабудове.

*ПРЭМ'ЕРЫ, ВЫСТАЎКІ, СУСТРЭЧЫ*

**ДНІ СССР У ЭФІОПІІ**

*У Эфіопіі прайшлі Дні СССР. Тут працавала выстаўка савецкіх кніг, жывапісу і фатаграфіі.*

*Экспазіцыя, разгорнутая ў будынку муніцыпалітэта Адыс-Абебы, уключыла ўзоры грамадска-палітычнай, навукова-тэхнічнай і мастацкай літаратуры, выдадзенай у СССР. Яе выяўленчы раздзел пазнаёміў наведвальнікаў са шматдзённым жыццём і дасягненнямі БССР.*

**ГРОДНА — БЕЛАСТОК**

*Упершыню ў Гродне адкрыта выстаўка «Археалагічныя даследаванні ў Беластоцкім ваяводстве ў 1955—1987 гадах».*

*У яе адкрыцці ўдзельнічалі загадчыца аддзела археалогіі Беластоцкага акруговага музея Хрысціна Бяньковская і навуковы супрацоўнік Лех Пайлата.*

*На сумеснай выстаўцы прадстаўлена каля 1 500 экспанатаў.*

*На будучыню запланавана экспанаванне матэрыялаў з фондаў Гродзенскага музея ў Беластоку.*

**«КАЛЕЙДАСКОП ЦУДАЎ»**

*Так называецца новая святочная праграма, прадстаўленая ў гэтыя дні на арэне Гомельскага цырка. Арыгінальнасць выконваемых нумароў, артыстызм і высокае майстэрства дэманструюць жанглёры і гімнасты, акрабаты і вясёлыя клоуны...*



**Традыцыйная выстаўка-продаж твораў мастакоў Беларусі прайшла ў мінскім Палацы мастацтва. На ёй былі прадстаўлены лепшыя работы беларускіх майстроў жывапісу, графікі, народных промыслаў.**

**Наведвальнікі маглі набыць на выстаўцы жывапісныя і графічныя палотны, творы дэкаратыўна-прыкладнога мастацтва — габелены, кераміку, ткацтва, мастацкае шкло, ювелірныя вырабы.**

**НА ЗДЫМКАХ: у экспазіцыі — вырабы дэкаратыўна-прыкладнога мастацтва; у адным з салонаў выстаўкі-продажу.**

**Фота Я. КАЗЮЛІ.**

*У ВАШУ КАЛЕКЦЫЮ*

# БУРАВЕСНІК РЭВАЛЮЦЫІ




Вобраз вялікага пралетарскага пісьменніка, пачынальніка савецкай літаратуры Максіма Горкага шырока прадстаўлены ў савецкай і замежнай філатэліі. На марках адлюстроўваліся не толькі яго партрэты, але і эпізоды з найбольш папулярных твораў. Яшчэ пры жыцці пісьменніка, калі ва ўсім свеце адзначалася 40-годдзе яго літаратурнай дзейнасці, савецкая пошта выпусціла ў абарачэнне дзве маркі з партрэтам Горкага.

З той пары з'явілася многа паштовых мініяцюр, прысвечаных пісьменніку. У цяжкія гады Вялікай Айчыннай вайны, калі ішлі баі на Курскай дузе, у паштовых аддзяленнях з'явіліся дзве маркі, выдадзеныя да 75-годдзя з дня нараджэння. На адной з мініяцюр змешчаны партрэт Горкага на фоне карціны, што адлюстроўвае палёт буравесніка над бурлівым морам. Тады, у час вайны, гледзячы на гэтую марку, міжволі кожны ўспамінаў страсны заклік з «Песні пра Буравесніка» — «Пусть сильнее грянет буря!..»—да навальніцы, якая павінна была знесці ўсю фашысцкую нечысць, што ўварвалася на нашу зямлю.

Праз тры гады савецкая пошта зноў выпусціла дзве маркі, якія адзначылі дзесяцігоддзе з дня смерці вялікага пісьменніка. На адной з іх словы з п'есы «На дне» — «Чалавек — гэта гучыць горда!».

Вялікай папулярнасцю ў савецкіх філатэлістаў карыстаюцца серыі марак і канвертаў — «Выдатныя пісьменнікі народаў СССР». Адна з марак гэтай серыі прысвечана М. Горкаму. Партрэт пісьменніка (па карціне мастака В. Яфанава) надрукаваны на гэтай марцы на фоне адной з ілюстрацый да рамана «Маці».

Да 90-годдзя з дня нараджэння М. Горкага пошта СССР выдала марку з рэпрадукцыяй шырока вядомага партрэта, напісанага І. Бродскім, а стогадовы юбілей пісьменніка адзначаны маркай, на якой зноў партрэт М. Горкага (работы мастака В. Сярова).

Можна таксама прыгадаць марку з адлюстраваным на ёй помнікам М. Горкаму ля Беларускага вакзала ў Маскве, вялікую колькасць мастацкіх канвертаў, прысвечаных пісьменніку. Вось і сёлета, да 120-гадовага юбілею пісьменніка, выданы канверт з партрэтам М. Горкага на фоне бурлівага мора і буравесніка.

М. Горкі з'яўляецца адным з любімых пісьменнікаў усяго чалавецтва. Па колькасці перакладаў на замежныя мовы творы М. Горкага займаюць адно з самых першых месцаў. Гэта незвычайная папулярнасць савецкага пісьменніка знайшла сваё адлюстраванне і ў замежнай філатэліі. Першая паштовая мініяцюра, прысвечаная Горкаму, выпушчана за мяжой у 1948 годзе ў Венгрыі. Яна з'явілася ў серыі «Выдатныя майстры сусветнай літаратуры». Выдавалі маркі, прысвечаныя М. Горкаму, паштовыя ведамствы ГДР, Румыніі, Балгарыі, В'етнама, Манголіі, Чэхаславакіі, Індыі. Большасць гэтых выпускаў была прысвечана 100-гадоваму юбілею пісьменніка.

Завяршаючы наш агляд, нельга не сказаць аб тым, што і сам Горкі кароткія моманты свайго адпачынку часам праводзіў за паштовымі маркамі. Знаходзячыся ў Італіі, Горкі з'яўляўся членам Філінтэрна, арганізацыі пралетарскіх філатэлістаў.

Філатэлістычныя матэрыялы аб М. Горкім могуць быць змешчаны і ў філатэлістычную калекцыю пра Беларусь. Ён першым вітаў беларускую літаратуру, высока ацаніў народны характар паэзіі Янкі Купалы і Якуба Коласа. Пераклаў на рускую мову верш Янкі Купалы «А хто там ідзе?».

**Леў КОЛАСАЎ.**

**II. Маляўнічая шоу-праграма фестывалю малад[illegible]ай моды, якая нядаўна прайшла ў сталічным Палацы спорту, [illegible]доўга запомніцца мінчанам. У грандыёзным відовішчы прынялі ўдзел не толькі манекеншчыцы, але і артысты, журналісты, музыканты, мастакі вядучых прадпрыемстваў лёгкай прамысловасці. Буйнейшыя арганізацыі Літвы, Украіны, Ленінграда, Беларусі і госці з Балгарыі прадставілі ў гэтай праграме ўсе сучасныя стылі і напрамкі маладзёжнага адзення.**

**Заслужанае прызнанне гледачоў атрымалі цікавы[illegible]екцыі гаспадароў і арганізатараў фестывалю. Свае лепшыя ўзоры тут пр[illegible]эманстравалі Беларускі цэнтр моды, Рэспубліканскі Дом мадэлей трыкатажных вырабаў «Алеся» і Беларускае вытворчае аб'яднанне мастацкіх промыслаў.**

**— Высока адзначаем работу майстроў Беларускага цэнтра мод, — сказала журналістам у час фестывалю прадстаўнік ленінградскіх мадэльераў Таццяна Красоўская. — Яны распрацоўваюць за год дзве сезонныя калекцыі адзення — гэта вельмі многа. Зразумела, чаму многія ленінградцы жадаюць набыць модныя вырабы з Мінска!**

**...Плывуць у гуках вальса, калыхаючыся ў каляровых струменях пражэктараў, змяняюць адна адну дзяўчаты-дэманстратары. Сярод новых мадэлей шмат зручных, практычных, арыгінальных распрацовак. Ёсць і такія, што выклікаюць здзіўленне залішняй экстравагантнасцю — трэба разумець і гэта: пошук новага заўжды звязаны з пранікненнем у яшчэ непазнаныя сферы.**

**НА ЗДЫМКАХ: ідзе дэманстрацыя мадэлей; супрацоўнік Беларускага цэнтра моды Тамара ВАРВАНЦАВА дэманструе касцюм, які выкананы ў народным стылі; святочная сукенка, распрацаваная Рэспубліканскім Домам мадэлей трыкатажных вырабаў.**

**Фота Я. ПЯСЕЦКАГА.**







## «КНІГАРНЯ», НУМАР ПЕРШЫ

Прыйшоў да чытача першы нумар газеты — «Кнігарня», інфармацыйна - рэкламнага бюлетэня Дзяржаўнага камітэта Беларускай ССР па справах выдавецтваў, паліграфіі і кніжнага гандлю і Рэспубліканскага праўлення Добраахвотнага таварыства аматараў кнігі. Адкрываецца ён інтэрв'ю са старшынёй Дзяржкамвыда БССР М. Дзяльцом, які расказвае аб профілі і задачах новага выдання.

У нумары — пажаданні газеце аматараў кнігі, расказ пра кожнае з дзесяці рэспубліканскіх выдавецтваў, рэкламны праспект бібліятэкі «Скарбы сусветнай літаратуры», які з наступнага года пачынае выпускаць выдавецтва «Мастацкая літаратура». Пад рубрыкай «Прэм'ера кнігі» прадстаўлены зборнікі «Спеў пра Расію» і «Песнь о Белоруссии». Расказваецца пра энцыклапедыю «Францыск Скарына і яго час».

Нумар ілюстраваны, мае разнастайную інфармацыю, у тым ліку аператыўную — «Сігнальныя экземпляры».

Пачатковы тыраж «Кнігарні» пяць тысяч экземпляраў, яна распаўсюджваецца праз кіёскі «Саюздруку».

## БЕЛАРУСКАЯ КУХНЯ

### СУП МАЛОЧНЫ З КРЭКЕРАМІ

**Картафляныя крэкеры перабраць, апусціць у кіпяток на 5 мінут. Затым уліць гарачае малако і варыць. За некалькі мінут да заканчэння варкі дабавіць соль, цукар і давесці суп да кіпення. Заправіць сметанковым маслам.**

**120 грамаў крэкераў, 6 шклянак малака, 2 сталовыя лыжкі цукру, 1 сталовая лыжка масла, соль.**

### ГАЛКІ

**Бульбу прамыць, адварыць у лупінах, астудзіць і абабраць. Прапусціць праз мясарубку, дабавіць соль, яйка, крыху мукі і вымешаць. З картафлянай масы прыгатаваць піражкі з фаршам з фасолі, прасяной ці рысавай кашы. Піражкі запаніраваць у муцэ, пакласці на змазаную маслам патэльню і запячы ў духоўцы.**

**10 штук бульбін, 1 яйка, 1/2 шклянкі мукі, 1 сталовая лыжка масла, соль.**

**Для фаршу: 1/2 шклянкі фасолі (проса ці рысу), 2 цыбуліны, 1 сталовая лыжка масла.**

### ЗРАЗЫ МАННЫЯ З ЧАРНАСЛІВАМ

**Чарнасліў перабраць, прамыць, злёгку адварыць, дастаць костачкі, мякаць здрабніць і перамяшаць з цукрам. Зварыць манную кашу на малацэ з дабаўленнем вады, астудзіць да 60 градусаў, дабавіць жаўток, узбіты бялок і добра вымешаць. З атрыманай масы зрабіць аладкі таўшчынёй прыкладна 1 сантыметр, на сярэдзіну пакласці чарнасліў, злучыць краі і надаць авальную форму. Зразы абсыпаць сухарамі і падсмажыць.**

**Падаць у гарачым выглядзе са смятанай.**

**1 шклянка маннай крупы, 160 грамаў чарнасліву, 1 сталовая лыжка сметанковага масла, 1 шклянка малака, 2,5 шклянкі вады, 1 яйка, 1 сталовая лыжка цукру, 2 сталовыя лыжкі паніровачных сухароў, соль.**

## НОВАЯ ЎСТАНОВА КУЛЬТУРЫ Ў КАПЫЛІ

Першых наведвальнікаў у хуткім часе запросіць літаратурны музей у Капылі. Ініцыятарам яго стварэння стаў раённы савет садзейнічання Савецкаму фонду культуры.

Капыльшчына багатая на літаратурныя таленты. Адсюль пачыналі свой шлях Цішка Гартны, Кузьма Чорны, іншыя вядомыя дзеячы культуры. З іх біяграфіямі, творчасцю і будзе знаёміць землякоў новая ўстанова культуры. Цяпер тут ідзе інтэнсіўны пошук матэрыялаў аб пісьменніках, спеваках, музыкантах, мастаках, народных умельцах раёна.

**РЭДАКЦЫЙНАЯ КАЛЕГІЯ**

**НАШ АДРАС:**

**МІНСК-5, ЛЕНІНСКІ ПРАСПЕКТ, 44,**
**ТЭЛЕФОНЫ: 33-01-97, 33-02-80,**
**33-03-15, 33-16-56, 33-07-82.**

Ордэна Працоўнага Чырвонага Сцяга
друкарня выдавецтва
ЦК КП Беларусі.
Зак. 1553